www.nv-online.info

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**№ 29 (4281)**

10 красавіка 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.





ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

Павел ЛЕГКИЙ,
заместитель министра информации Республики Беларусь:

## «Мы не отказываемся от диалога…»

*Разговор по поводу проекта нового Закона о средствах массовой информации, который вызвал широкий резонанс.*

**– Павел Николаевич, законопроектом предусмотрена обязательная идентификация лиц, размещающих материалы или комментарии на форумах. Означает ли это, что теперь у журналистов не будет права на псевдонимы?**

– Конечно же, не означает. Речь идет именно о форумных комментаторах. А если вы журналист и работаете под псевдонимом, то предполагается, что у вас есть и договорные отношения с изданием, где вы публикуетесь. И та информация, которая составляет предмет договора, – это реальная информация, с паспортными данными. Тот, кто предоставляет вам работу и платит гонорар, может вас идентифицировать, вы платите налоги. Значит, проблем нет. В этом смысле для журналистов ничего не меняется.

**– А какой предлагается механизм идентификации?**

– Например, это может быть смс-идентификация, через получение сообщения с кодом. Но могут быть и другие варианты. Пока это лишь проект закона, он еще не прошел даже первые слушания в парламенте…

Владелец ресурса должен знать, кто у него на форуме и в каких выражениях комментирует. Речь идет не о том, что на форуме должны появляться паспортные данные. Нет. Человек может появляться под «ником», но у владельца ресурса с этим человеком должна быть обратная связь. Мы сегодня в магазинах, получая дисконтную карточку, заполняем анкеты, где содержатся персональные данные. И я не видел, чтобы кто-то сильно возмущался этим фактом! Так и здесь: у владельца интернет-ресурса должны быть сведения о комментаторах.

Я бы обратил внимание на другой момент – предлагаемую в проекте обязанность владельцев интернет-ресурсов публиковать информацию о себе. Я каждый день разбираю по десятку с лишним обращений граждан, жалующихся на тот или иной интернет-ресурс. Они не могут достучаться до владельцев сайтов, найти их контакты – нет обратной связи. И это касается не только журналистских материалов – например, может быть размещена недостоверная реклама, фейк...

Нам хотелось бы, чтобы обратная связь не только появилась, но и работала, чтобы граждане могли связаться с владельцами сайтов в тех случаях, которые считают для себя важными. Я думаю, что это вполне нормально.

**– В законе будут четко прописаны варианты идентификации?**

– В проекте закона мы пишем о том, что идентификация должна быть. Но исходим из того, что ее порядок будет подробно прописан, возможно, каким-то дополнительным документом.

**– Белорусская ассоциация журналистов подготовила свою оценку этого проекта закона…**

– Почему бы и нет? Мы не против обсуждать проект, тем более с теми, кто напрямую заинтересован. И, кстати говоря, не стоит исключать, что окончательная версия данного законопроекта может в итоге ощутимо отличаться от того, что сейчас предлагает Министерство информации.

*(Окончание на 2-й стр.)*

СТОП-КРАН

### Малочная «вайна» працягваецца?

*З 10 па 14 красавіка інспекцыя “Россельхознадзора” разам з прадстаўнікамі беларускай ветэрынарнай службы праверыць 10 беларускіх прадпрыемстваў-вытворцаў прадукцыі жывёльнага паходжання.*

Таксама “Россельхознадзор” уводзіць рэжым узмоцненага лабараторнага кантролю прадукцыі сямі беларускіх прадпрыемстваў. На думку расійскіх спецыялістаў, з іх пастаўляецца прадукцыя з парушэннем ветэрынарна-санітарных патрабаванняў і нормаў Еўразійскага эканамічнага саюза і Расійскай Федэрацыі.

**Віктар ШПАК.**

КРЫМІНАЛ

### Затрыманы дырэктар Мазырскага псіханеўралагічнага дома-інтэрната

Яго абвінавачваюць у злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі. Ён выкраў амаль 690 літраў дызельнага паліва на суму 886,18 рубля.

Кіраўнік таксама прысвоіў газавую пліту «Гефест», якая належыць дому-інтэрнату. Акрамя таго, выкарыстоўваў працу недзеяздольнага чалавека, які пражывае ў сацустанове, для выканання бясплатных работ на сваім дачным участку з чэрвеня па жнівень 2017 года.

100 РАДКОЎ

Міхася СКОБЛЫ



## Калі вымруць сталіназаўры?

Каля гэтай нічым не прыкметнай з выгляду хаты ў цэнтры Зэльвы спыняюцца экскурсійныя аўтобусы. Яна фігуруе ў мемуарных кнігах, яе паказваюць у дакументальным кіно. Збудаваная са смалістых бярвенняў, яна і ў паважным веку (120 гадоў!) нязрушна стаіць на сваім падмурку, не збуцвела і не пахілілася. Можа, жыццёвай трываласці хата набралася ў сваёй колішняй гаспадыні – Ларысы Геніюш, якой і абавязана сваёй вядомасцю? Паэтка пражыла ў ёй амаль трыццаць гадоў, сюды яна вярнулася з ГУЛАГа, адсюль яе праводзілі ў апошні шлях – 35 гадоў таму.

Спроба зрабіць хату прыкметнай з выгляду адбылася ў жніўні 2010 года, калі адзначаліся 100-я ўгодкі Ларысы Геніюш. Вядомы скульптар Алесь Шатэрнік, які стварыў для Зэльвы помнік загінуўшым у гады Другой сусветнай вайны, вырашыў зрабіць зэльвенцам яшчэ адзін падарунак – за ўласны кошт адліў мемарыяльную дошку з барэльефам паэткі і надпісам: “У гэтай хаце жыла выдатная беларуская паэтка Ларыса Геніюш (1910–1983). Мы заўжды душой з сваімі хатамі, бо арлы не пакідаюць гнёзд”.

Пасля ўзгаднення з Зэльвенскім райвыканкамам і з новымі гаспадарамі хаты (даўно прыватызаванай) дошка заняла належнае ёй месца. Але правісела ўсяго чатыры дні, пасля чаго была дэманціравана прадстаўнікамі таго самага выканкама і пасля гадавога “арышту” ў мясцовым пастарунку вернута ўладальніку.

Па просьбе Алеся Шатэрніка забіраць “вызваленую” дошку давялося нам з краязнаўцам Сяргеем Чыгрыным. У кабінеце начальніка міліцыі я наўпрост спытаўся ў няўсмешлівага падпалкоўніка: “Дошка з’явілася на хаце з парушэннем заканадаўства?” Падпалкоўнік адказаў коратка: “Не”. – “Тады, відаць, мела месца правапарушэнне з боку тых, хто яе здымаў?” Падпалкоўнік на гэты раз нічога не адказаў і проста параіў, прыхапіўшы дошку, пакінуць пастарунак.

Увесь гэты час мы з сябрамі намагаліся атрымаць нейкае канкрэтнае тлумачэнне ад зэльвенскіх улад: па якім праве яны з прыватнага дома знялі тую дошку? І вось нядаўна (амаль праз восем гадоў!) дачакаліся адказу. З Зэльвенскага райвыканкама на адрас Гродзенскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў прыйшоў афіцыйны ліст, у якім паведамляецца, што дошка, аказваецца, з’явілася на доме без дазволу яго ўласнікаў. Я ажно вачам сваім не паверыў – як такое магло адбыцца?

З таго выканкамаўскага ліста вынікае, што Алесь Шатэрнік з Міхасём Скоблам, як бандыты ці рабаўнікі, незаўважна для гаспадароў праніклі ў хату, што стаіць на ажыўленай вуліцы, прасвідравалі адтуліны ў сцяне і прышруйбавалі мемарыяльную дошку да сцяны. Тыя, у каго больш багатае ўяўленне, могуць даўявіць, як візіцёры-зламыснікі звязалі гаспадароў, заклеілі ім скотчам рот і пад покрывам начы зрабілі сваю цёмную справу…

Насамрэч, зразумела, ніхто ў хату гвалтам не лез і яе саўладальнікаў, Любоў Уладзіміраўну Захара і Марыю Васільеўну Дайкала, не вязаў. Мілыя і сардэчныя людзі, яны без лішніх угавораў дазволілі павесіць дошку на сваёй уласнай хаце. Цераз дарогу, каля царквы, стаіць помнік Ларысе Геніюш, у храме нават можна паглядзець невялікі музейчык знакамітай зямлячкі, дык няхай і дошка будзе, каму яна перашкодзіць?

Аднак жа – перашкодзіла. Дэмантажом дошкі займаліся наменік старшыні Зэльвенскага райвыканкама Валянцін Семяняка (які спачатку быў “за”) і выканкамаўскі ідэолаг Юрый Кулікоў. Апошні праславіўся яшчэ і публічнай заявай аб тым, што “Гениюш состояла в переписке с Гитлером”, а таму ніякіх ушанаванняў у Зэльве быць не можа.

Абодва чыноўнікі адносна нядаўна пакінулі свае пасады – аднаго панізілі, другі пайшоў на павышэнне. Але спадзявацца, што новае начальства зменіць сваё стаўленне да Ларысы Геніюш і багавейна схіліць галовы перад самым знакамітым домам у Зэльве – Геніюшаўскім домам, – не выпадае. Зэльвенскія начальнікі ківаюць на гродзенскіх, гродзенскія – на мінскіх, мінскія – на Вярхоўны суд і КДБ, на якіх усё і замыкаецца. І калі адамкнецца – ніхто не ведае.

“Дваццаць пяць гадоў за абы-што ў Савецкім Саюзе не давалі”, – заявіў мне аднойчы адказны за ідэалогію чыноўнік абласнога ўзроўню, маючы на ўвазе прысуд Геніюш у 1949 годзе. Прызнацца, мне і дых заняло. Перада мною сядзеў не замшэлы гэбіст-адстаўнік, а мой равеснік, які, трэба думаць, і Салжаніцына чытаў, і пра сталінскія рэпрэсіі ўяўленне меў. Для такіх і ім падобных у Ларысы Геніюш было прызапашана адметнае слоўца – сталіназаўры. Гэта пра іх, закасцянелых у дзяржаўнай хлусні і бязлітасных да іншадумцаў, сказана: “Світае. Нявінныя ўсталі з калень, / А мёртвыя выйшлі па лаўры. / І толькі ад праўды схаваліся ў цень / Апошнія сталіназаўры”.

2018 год на двары, а сталіназаўры яшчэ поўзаюць па зацішнай, запалоханай Зэльве, топчучы памяць пра выдатную беларускую паэтку. Сталіназаўры знайшлі сабе ўтульныя пячоры ў Міністэрстве адукацыі і выкінулі творы Ларысы Геніюш са школьнай праграмы па літаратуры. Сталіназаўры ў судзейскіх мантыях працягваюць лічыць яе злачынцам, адмаўляючы ў пасмяротнай рэабілітацыі.

З усёй пароды выкапнёвых сталіназаўры аказаліся самымі жывучымі. Але і яны вымруць, як таго патрабуюць неадменныя законы прыроды.

Зэльвенскія чыноўнікі ў выпадку з дошкай звыкла прыкрыліся людскім волевыяўленнем (цэлых восем гадоў яны здабывалі тое волевыяўленне!). Але чамусьці пра другое волевыяўленне яны нават не ўспамінаюць. А ў тым жа 2010 годзе пераважная большасць жыхароў вуліцы Савецкай (170 чалавек!) падпісаліся за перайменаванне вуліцы ў гонар славутай зямлячкі, і падпісныя лісты былі перададзены ў адпаведныя органы ўлады. Вось бы тут волю народа чыноўнікі пачулі! А то па ўсёй Беларусі ажно 62 Савецкія вуліцы, а імя Ларысы Геніюш – пакуль ніводнай.

НА СЛОВАХ І...

## Як зменяцца зарплаты выхавальнікаў дзіцячых садкоў, калі іх «аклады» з 1 верасня падымуць на 50 працэнтаў?

Як вядома, нядаўна міністр адукацыі **Ігар Карпенка** заявіў: *«Мы ўжо ўнеслі свае прапановы – падняць з 1 верасня аклады педагагічным работнікам і памочнікам выхавальнікаў ва ўстановах дашкольнай адукацыі на 50 працэнтаў, а педагагічным работнікам іншых устаноў адукацыі, акрамя прафесарска-выкладчыцкага складу, – на 20 працэнтаў».*

Заява гучная, але насамрэч павышэнне, калі яно адбудзецца, будзе мізэрнае – ад 75,5 да 79,28 рубля.

*– Міністр, хутчэй за ўсё, меў на ўвазе павышэнне тарыфнай стаўкі,* – тлумачаць у аддзеле сацыяльна-эканамічнай працы Беларускага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі. *– Бо такое паняцце, як чысты аклад, не зусім дакладнае. Звычайна павышэнне адбываецца менавіта тарыфнай стаўкі, пералічваецца яе памер.*

З 1 сакавіка гэтага года тарыфныя стаўкі работнікаў сістэмы адукацыі былі пераглежданы, і калі вераснёўскае павышэнне на 50 працэнтаў будзе разлічвацца па гэтых лічбах, то выглядаць яно будзе наступным чынам (у рублях).

**Для настаўнікаў і выхавальнікаў дзіцячых садкоў з вышэйшай адукацыяй:**

| Катэгорыя работніка | Тарыфная стаўка на 1.03.2018 | Тарыфная стаўка, якая можа быць на 1.09.2018 | На колькі можа вырасці “аклад” |
|---|---|---|---|
| Без катэгорыі | 152,56 | 228,84 | 76,28 |
| Другая катэгорыя | 154,01 | 231,01 | 77 |
| Першая катэгорыя | 155,47 | 233,21 | 77,74 |
| Вышэйшая катэгорыя | 158,55 | 237,83 | 79,28 |

**Для настаўнікаў і выхавальнікаў дзіцячых садкоў з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй**

| Катэгорыя работніка | Тарыфная стаўка на 1.03.2018 | Тарыфная стаўка, якая можа быць на 1.09.2018 | На колькі можа вырасці “аклад” |
|---|---|---|---|
| Без катэгорыі | 150,93 | 226,40 | 75,47 |
| Другая катэгорыя | 151,82 | 227,73 | 75,91 |
| Першая катэгорыя | 152,56 | 228,84 | 76,28 |
| Вышэйшая катэгорыя | 154,01 | 231,01 | 77 |

У ТЭМУ

Алена ГАЛАЎКО,
былая загадчыца дзіцячага садка ў Светлагорску:

### «Зарплата ў мяне была – 630–650 рублёў»

– Аклад, калі мець на ўвазе тарыфную стаўку, – гэта толькі невялікая частка зарплаты выхавальніка, – кажа былая загадчыца дзіцячага садка №21 горада Светлагорска **Алена Галаўко**. – Ёсць даплаты і за стаж, і за кваліфікацыйную катэгорыю, і за ўзровень установы. Калі прыходзяць маладыя спецыялісты, яны атрымліваюць літаральна капейкі. Потым ужо напрацоўваюць стаж, катэгорыю. Надбаўкі ёсць за правядзенне розных мерапрыемстваў, кансультацый – гэта ўсё прапісана ў калектыўнай дамове, таму выхавальнікі зарабляюць па-рознаму.

Пару гадоў таму, калі да нас у садок прыйшла выпускніца каледжа, першы час яе зарплата была такая ж, як у дворніка.

**– У вас як у загадчыцы які быў аклад?**

– Невялікі, нават і не ўспомню. Агулам зарабляла дзесьці 630–650 рублёў, такая сума выходзіла ў большай ступені за кошт розных даплат і надбавак. І гэта была самая высокая зарплата ў нашым калектыве. Мне нават хацелася, каб наменікі атрымлівалі больш. А ў іх выходзіла няшмат. Напрыклад, намеснік па гаспадарчай частцы зарабляла як памочнік выхавальніка.

**– А ў памочнікаў выхавальнікаў якія заробкі? Рублёў 400 у месяц выходзіць?**

– Канешне, не. Да Новага года ў іх было 250 рублёў, потым крыху дадалі. Зараз рублёў 300, напэўна, атрымліваюць.

Выхавальнікі больш зарабляюць, але зноў-такі ўсе па-рознаму. У сярэднім каля 400 рублёў. Аднак калі ёсць вышэйшая катэгорыя – гэта дзесьці 100 рублёў даплаты да тарыфнай стаўкі.

**– Выхавальнікі дзіцячых садкоў звычайна працуюць на стаўку альбо больш? У медыцыне, напрыклад, гэта распаўсюджаная парктыка – 1,25 стаўкі, паўтары...**

– Цэлы дзень з 7 раніцы і да 7 вечара працаваць з маленькімі дзецьмі цяжка. І фізічна, і адказнасць велізарная. Таму выхавальнікі не вельмі ахвотна ідуць на падпрацоўку.

Павышэнне тарыфнай стаўкі на 50 працэнтаў – гэта, вядома, лепш, чым нічога. Але мне вельмі хацелася б, каб і педагогі, і выхавальнікі ў дзіцячых садках, і іх памочнікі, а таксама тэхперсанал зараблялі больш, каб іх праца ацэньвалася прыстойна. Бо ў іх і аб’ёмы працы каласальныя, і адказнасць велізарная...

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

НА СУВЯЗІ – ВІЛЬНЮС

### Газ для літоўскай свабоды

У Вашынгтоне падпісаны дакументы, якія здольны прынцыпова змяніць рынак энерганосьбітаў у краінах Балтыі. Klaipedos Nafta заключыла дамову наконт паставак амерыканскай Freeport LNG (галоўны экспарцёр амерыканскага газу па-за межамі Новага Свету) газу са Злучаных Штатаў па больш нізкіх коштах, чым той, які ідзе сёння ў Літву з Расіі. Амерыканскі бок выбіраў у якасці асноўнага партнёра паміж Клайпедай і польскім Свіноўйсцем і задаволіўся літоўскай прапановай.

Каментуючы падзею, прэзідэнт Літвы **Даля Грыбаўскайтэ** падкрэсліла, што гэта яшчэ адзін крок, які накіраваны на тое, каб спыніць шасцідзесяцігадовае дамінаванне Расіі на газавым рынку ў рэгіёне. Фактычна магутнасць клайпедскага тэрмінала дастатковая, каб цалкам забяспечыць літоўскія патрэбнасці ў газе.

ХТО ЁСЦЬ ХТО



**Віталь Дрожжа, міністр лясной гаспадаркі Рэспублікі Беларусь**

Такога ў “Народнай Волі” яшчэ не было – каб здымкі новых прэзідэнцкіх прызначэнцаў з’яўляліся ў двух нумарах газеты запар. Фота міністра лясной гаспадаркі **Віталя Дрожжы** і намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь **Уладзіміра Жаўняка** былі змешчаны на першай паласе ў мінулым нумары, яны ж паўтараюцца і ў сённяшнім.

Такім нестандартным чынам рэдакцыя выпраўляе няўважлівасць свайго аператара электроннай вёрсткі, з-за чаго побач з біяграфіямі новых прызначэнцаў былі выпадкова змешчаны не іх фота. Адным словам, пераблыталі здымкі.

Просім прабачэння як у Віталя Дрожжы і Уладзіміра Жаўняка, так і ў чытачоў.

**Рэдакцыя.**



**Уладзімір Жаўняк, намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь**

Народная Воля http://www.nv-online.info 10 КРАСАВІКА 2018 г.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Истерика как стиль руководства

Девять дней назад ушел из жизни председатель агропромышленного холдинга ООО «Купаловское» Шкловского района Дмитрий Василевский. Ушел сам, на следующий день после того, как отметил свой день рождения.

Я не знал его, но, судя по фотографии, был он нормальным мужиком – любящим мужем и отцом. И руководителем не худшим. Только вот надорвалось в нем что-то.

И я вспомнил о другом добровольном уходе из жизни. О том, как ушел бывший депутат Верховного Совета 12-го созыва, бывший министр транспорта и коммуникаций Александр Васильевич Лукашов. Его я знал, правда, недолго. Он казался мне человеком добрым, порядочным, совестливым. И то, что говорили о нем как о руководителе работники автобазы, где он директорствовал до избрания депутатом, я тоже знаю. Хорошо о нем говорили. Требовал, но много кому и помогал.

Я спросил нашего общего знакомого, бывшего депутатом того же созыва, а потом и членом одного с нами предвыборного штаба:

– Почему так случилось? Почему – сам, добровольно?

Собеседник мой тогда плечами пожал, прикуривая:

– «Застучали»…

И рассказал. Оказывается, в том правительстве был негласный порядок: или ты «стучишь», или на тебя «стучат». Никто ничего антигосударственного не делал, и даже к президенту все были лояльны не за страх, а за совесть. Но участие во всеобщем «стуке» друг на друга было свидетельством высшей степени благонадежности. Помните знаменитую фразу:

– В вашей, Михаил Николаевич, лояльности я не сомневаюсь: вы даже в спальне с женой ничего против президента не говорите.

Тогда казалось, что вот таким образом запугивают. Потом – что проговорится человек о стоящих в доме одного из высших должностных лиц страны «жучках» для подслушивания. А потом все просто начали воспринимать происходящее как должное: слушают – ну и хрен с ними, пусть слушают. Все равно кто-нибудь на тебя «настучит».

Внутриаппаратный террор превратился в составляющую часть жизни белорусского управленческого сословия. Формальным оправданием для него стал бесконечный поиск врагов. Враги – они ведь где? Они – везде! Повсюду! Надо только прислушаться, и точно вычислим, где они притаились. Апофеозом поиска врагов стал 2010 год, когда посадили одновременно штабы восьми кандидатов в президенты, всё преступление которых состояло в том, что они воспользовались конституционным правом граждан Республики Беларусь. Позора было – на весь мир.

Но при этом в «американке» допрашивали в первую очередь о том, не были ли причастны к этой самой «попытке свержения государственной власти путем участия в выборах» сами чиновники. Про Сергея Сидорского умолчу. Но кроме как о нем спрашивали о Якубовиче и Макее, о Мясниковиче и Титенкове, о бывших и нынешних. Спрашивали о тех, кого отправили в отставку и кого только что назначили и переназначили. То есть, получается, назначали – и боялись. А боялись – значит, запугивали. Не нас боялись – не нас и запугивали. Сами себя.

Страх превратился в обоюдоострый фактор. Запугиваешь – значит, и сам продолжаешь бояться. Боишься – наращиваешь репрессивную риторику, нагнетаешь атмосферу страха – и ещё больше поддаешься ей сам.

И так – не только во время президентских выборов. В свое время великий режиссер Георгий Товстоногов поставил пьесу Максима Горького «Мещане» так, чтобы было видно: нет в семье Бессеменовых покоя. Там либо скандал, либо краткий отдых от скандала, либо подготовка к скандалу. Вот у нас построена система, когда вся жизнь – либо очередная военная (посевная, уборочная, предвыборная, иная политическая) кампания, требующая от государственных служащих напряжения, либо подготовка к новой кампании. Даже кратковременного отдыха нет. Покой, говоря словами поэта, им только снится.

В таких условиях истерика становится фирменным стилем государственного управления на всех уровнях. В состоянии истерики награда теряет свою привлекательность, а наказание – ужас. Даже наоборот: получение награды вызывает страх, поощрение и выражение доверия – ужас. Кто-нибудь вел статистику судеб, например, членов совета по предпринимательству? А вы посмотрите их состав, а потом число тех, кто успел после этого получить приговор, отсидеть и выйти на свободу. Вы хотите мне сказать, что этих бизнесменов не проверяли перед тем, как включить их в состав совета при президенте или правительстве? Еще как проверяли! И потом – сажали. Не всех. Но так сажали, чтобы другим неповадно было!

А вот что именно – «неповадно»? Красть? Давать и брать взятки? Тогда почему каждый год заново проходим мы через многочисленные коррупционные скандалы. Причем в прессу попадают только самые громкие дела. Но есть ведь и дела тихие. О которых мы ничего не знаем. И которые свидетельствуют лишь о том, что истерика – продолжается. Потому что лишь в состоянии истерики рвут сорную траву, не думая о корнях – о причинах ее появления в нашем саду ли, огороде…

И в таком состоянии люди уходят сами. Не худшие уходят. Смерти начинают бояться меньше, чем бесконечного состояния страха, в которое ввергает их близость к власти. Они ведь знают: ***там*** не будет ни совещаний с выволочками, ни распеканий, ни поучений. Там не будет бесконечных истерик, прослушек, запугиваний. Там будет только тишина…

АКЦЫЯ

## Помні аб продках

Пад такой назвай у Зэльвенскім раёне стартавала акцыя, якая працягнецца да 14 красавіка. У яе межах будуць арганізаваны суботнікі па прыборцы тэрыторыі каля помнікаў, а таксама на магілках, дзе пахаваны ветэраны вайны і працы. Пажылым людзям будзе аказана дапамога па ўпарадкаванні магіл родных. У акцыі ўдзельнічаюць мясцовыя школьнікі.

СМУТАК

## Не вытрымала сэрца…

*Пайшоў з жыцця двухразовы алімпійскі чэмпіён па цяжкай атлетыцы Аляксандр Курловіч.*

**У яго здарыўся сардэчны прыступ, урачы «хуткай дапамогі» не паспелі ўратаваць вядомага ў мінулым спартсмена.**

Пасля заканчэння спартыўнай кар'еры Курловіч працаваў суддзёй на спаборніцтвах, быў сябрам тэхнічнага камітэта Міжнароднай федэрацыі цяжкай атлетыкі і выканаўчага камітэта Еўрапейскай федэрацыі.

28 ліпеня яму споўнілася б 57 гадоў…




АФІЦЫЙНА




Аляксандр ЛУКАШЭНКА:

## «Трэба выпрацаваць прымальныя для ўсіх прынцыпы супрацоўніцтва ў Еўропе»

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка выступае за выпрацоўку прымальных для ўсіх прынцыпаў супрацоўніцтва ў Еўропе. Аб гэтым ён заявіў учора на сустрэчы з кіраўнікамі дэлегацый, якія ўдзельнічалі ў пасяджэнні Савета міністраў замежных спраў СНД.

Прэзідэнт нагадаў, што ў ходзе 26-й сесіі Парламенцкай асамблеі АБСЕ беларускі бок прапанаваў пачаць дыскусію аб запуску перагаворнага працэсу, накіраванага на пераадоленне існуючых супярэчнасцяў і фарміраванне новых канструктыўных адносін у рэгіёне АБСЕ.

*«Важную ролю мог бы адыграць экспертны дыялог з удзелам аналітычных цэнтраў, урадавых і прыватных структур па пытаннях вызначэння агульных мэт, арыентаваных на ўмацаванне даверу паміж краінамі як мінімум у палітычнай і ваеннай сферах»*, – заявіў кіраўнік дзяржавы.

Паводле яго слоў, добрай магчымасцю для пачатку такой дыскусіі з'яўляецца запланаваная на май 2018 года ў Мінску Міжнародная экспертная канферэнцыя «Усходняя Еўропа: у пошуках бяспекі для ўсіх». Таксама ў 2018 годзе ў Беларусі пройдуць антытэрарыстычная канферэнцыя АБСЕ "Прадухіленне і барацьба з тэрарызмам у лічбавую эпоху" і сустрэча Асноўнай групы Мюнхенскай канферэнцыі па бяспецы. Кіраўнік дзяржавы запрасіў усіх партнёраў узяць удзел у гэтых мерапрыемствах на самым высокім узроўні.

*"Міжнародная абстаноўка сёння літаральна перанасычана напружанасцю. Найбольш небяспечная тэндэнцыя на еўраатлантычный прасторы – ідзе расхістванне сістэмы процівагі, якая раней стрымлівала дзяржавы і блокі, што сапернічаюць. Знаходзячыся на своеасаблівым геапалітычным разломе, Беларусь усведамляе ўшчэрбнасць раскручвання спіралі канфрантацыі ў Еўрапейскім рэгіёне. Мы фактычна на парозе новай гонкі ўзбраенняў. Эксперты сцвярджаюць, што халодная вайна ўжо ідзе"*, – падкрэсліў беларускі лідар.

Ён канстатаваў, што спробы выпрацаваць новую парадыгму светаўладкавання адбываюцца не за сталом перагавораў, а ў гарачых кропках. І бліжэйшая з іх – Данбас. *"Шырокамаштабныя баявыя дзеянні дзякуючы Мінскім пагадненням там спынены, але людзі, на жаль, працягваюць гінуць. Яшчэ раз пацвярджаю: мы гатовы зрабіць усё, каб на Данбасе быў мір. На прынцыпах захавання ўсіх міжнародна-прававых фармальнасцяў і пры згодзе канфліктуючых бакоў"*, – сказаў прэзідэнт.

(Паводле БЕЛТА).

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

Павел ЛЕГКИЙ, заместитель министра информации Республики Беларусь:

## «Мы не отказываемся от диалога…»

*Разговор по поводу проекта нового Закона о средствах массовой информации, который вызвал широкий резонанс.*

(Окончание. Начало на 1-й стр.)

**– Проект вызвал довольно бурное обсуждение. Известный блогер Виктор Малишевский подметил: *«Сейчас статья «Ограничение доступа к интернет-ресурсу» состоит из 6 пунктов, а будет – из 11 пунктов…»* По мнению председателя БАЖ Андрея Бастунца, новый законопроект *«направлен на усиление контроля над сферой СМИ»*.**

– Это, прежде всего, мнение БАЖ. Вообще, хорошо, что высказываются разные точки зрения, разные взгляды. Плохо, что не всегда люди хотят видеть то, что напрямую их не касается, но важно для других…

К примеру, журналисты изданий, существующих в том же легальном поле, что и «Народная Воля», неоднократно жаловались в Министерство информации, что испытывают определенные проблемы из-за того, что конкуренты действуют недобросовестно. У них нет статуса СМИ, но по факту они работают как СМИ, в другом правовом поле и с другой ответственностью.

**– Удивлена: неужели действительно были подобные жалобы?**

– Были, и не одна! Как были и обращения от владельцев интернет-ресурсов, которые хотели бы иметь официальный статус, но по разным причинам не имеют. Сейчас такая возможность будет. Возможность. Но не обязанность. Мы исходим из того, что надо вырабатывать общие правила и подтягивать к ним всех, кто по факту работает именно как средство массовой информации. Что в этом плохого?

А что до увеличения поводов для ограничения доступа к сайту, то список действительно расширился. Но надо же смотреть не только на количественный, но и на качественный состав этого списка. На мой взгляд, там разумные пункты: основанием для прекращения доступа к ресурсу может стать информация о способах изготовления взрывчатых веществ и взрывных устройств, информация, пропагандирующая самоубийство или побуждающая к нему, ненадлежащая реклама, информация о несовершеннолетнем, пострадавшем в результате противоправных действий, включая фамилию и прочие данные.

Сегодня по этим основаниям тоже можно закрыть интернет-ресурс – исходя из другой «нормативки». Мы предлагаем это включить в закон.

В целом к данному проекту закона не может быть однозначного отношения – у каждого может быть свой взгляд. Те, кто привык фактически выполнять функции редакции СМИ, но не хочет работать по закону и нести ответственность наравне с журналистами «Народной Воли», конечно, будут против. Потому что им так удобнее. Но ведь и «Народная Воля», и «Наша Нива» работают в легальном поле. Значит, это возможно.

Кстати, буквально на днях мне поступили звонки от руководителей двух ресурсов, которые сказали: мы первыми пойдем и зарегистрируемся как СМИ!

**– Еще хочу уточнить про «черные списки». В законопроекте прописана возможность возобновления доступа к сайтам, попавшим в "черный список", – предлагается решать проблему напрямую с Мининформом. А что, в суде решение министерства информации обжаловать будет невозможно?**

– Во-первых, Министерство информации не принимает решений без оперативного согласования с другими органами госуправления. По ситуации: с МВД, Министерством антимонопольного регулирования и торговли, иными. Равно как и решение о том, чтобы «разбанить» ресурс, мы не принимаем единолично: для примера, если там содержалась недобросовестная реклама, то без МАРТ мы не обойдемся. Во-вторых, в проекте прописан уже давно существующий порядок. В-третьих, и это уже прямой ответ на вопрос: действия госоргана вы вправе оспаривать в суде – это ваше законное право, которое никто не отнимет. Есть другие предложения? Высказывайте…

**– Другими словами, вы с министром готовы выслушать любые предложения?**

– Конечно, мы не отказываемся от диалога. Министр встречался с представителями БАЖ, депутатами парламента, журналистами, в том числе и с теми, кто недоволен законом о СМИ и хотел бы видеть его другим. И в Министерстве считают нормальным, что идет активное открытое обсуждение нашего проекта. Главное – чтобы на пользу делу…

**Марина КОКТЫШ.**

MEMORIA

## Паклон табе, Алесь Рашчынскі…

Было так ветрана, так неспакойна... Сціплыя кветкі, якія сябры і вучні фалькларыста і кампазітара Алеся Рашчынскага прынеслі да яго мемарыяльнай дошкі, ледзь утрымліваліся на імправізаваным пастаменце на вуліцы Сухараўскай каля дома №17. Прахожыя некуды спяшаліся. Школьнікі нешта радасна абмяркоўвалі... Сталічны мікраёна ля самай кальцавой аўтадарогі жыў сваім будзённым жыццём. Вось так, можна сказаць, у рабочай абстаноўцы, адбылося ўчора адкрыццё мемарыяльнай дошкі нашаму знакамітаму фалькларысту.

Сабраліся сябры і былыя калегі Алеся Рашчынскага. Вядома, прысутнічала ўдава Алена Леанідаўна, прыехаў таксама яго роднЫ брат Валерый Рашчынскі.

Гэта было даволі сціплае мерапрыемства, хоць тыя, хто бралі слова, натуральна, стараліся ўкласці ў свае выступленні як мага больш шчырых пачуццяў. Але месца, дзе ўсталявалі дошку памяці, – на рагу шэрай шматпавярховай «скрынкі», час падзеі – працоўны панядзелак, а другой гадзіне дня – неяк міжволі зніжалі градус і значнасць цырымоніі. Ды і ці шмат распавядзеш на ветры без мікрафона?




Не змог прысутнічаць дырэктар Мінскага дзяржаўнага музычнага каледжа Уладзімір Чэрнікаў. І наогул было мала прадстаўнікоў грамадскасці. Хоць на мемарыяльную дошку збіралі якраз з асабістых сродкаў. Не падвёў толькі хор імя Алеся Рашчынскага з музычнага каледжа. Калі насуперак жудаснаму скразняку, які захопліваў і выносіў увысь любыя гукі, ён гучна і выразна грымнуў песню Алеся Рашчынскага на вершы Ніла Гілевіча «Паклон табе, мой родны краю!», усё вакол змянілася. Музыка, якой прысвяціў жыццё Алесь Рашчынскі, здавалася, плыла з нябёсаў, усяляла аптымізм і надзею.

**Алена МАЛОЧКА.**



Народная Воля
http://www.nv-online.info
10 КРАСАВІКА 2018 г.

КОМПЕТЕНТНЫЙ ВЗГЛЯД

# «НАТО считает белорусскую армию частью российской»

*О важности общественного контроля над армией рассказал **Януш ОНЫШКЕВИЧ** – один из основателей польского антикоммунистического движения «Солидарность», бывший министр национальной обороны Польши, который стоял у истоков реформирования польских вооруженных сил после развала СССР.*

На неформальной встрече с белорусскими журналистами Онышкевич поведал, почему министром обороны не должен быть военный и как этого удалось добиться в Польше, зачем общественности контролировать армию, что думают в НАТО о сотрудничестве белорусских и российских вооруженных сил и почему Европейскому Союзу важна независимость Беларуси.




### Польский опыт

– Гражданский контроль над вооруженными силами – принципиальный и важный аспект демократического строя, – *отметил Онышкевич*. – После развала Союза армия в Польше была очень недемократической структурой в демократической стране. И эта недемократическая структура обладает силой. Есть опасность, что сила может быть использована против демократического государства. Поэтому очень важен гражданский контроль. Как он может работать? Надо определить, что должно находиться в компетенции военных, а что – в компетенции гражданских. Гражданские определяют намерения и цели, военные определяют, как это можно осуществить. Но все решения носят политический характер, а не военный. Чтобы было понятно, приведу пример высадки союзников в Нормандии в 1944 году. Это именно политическое решение.

Нам очень трудно было добиться изменения принципа работы Вооруженных сил Польши. Все военные проблемы были тайной, гражданские ничего об этом не знали. Но все-таки мы смогли убедить военных, что они должны быть вне политики. Поэтому министр обороны, выполняющий в первую очередь политическую функцию, не может быть военным. Да, он мог в прошлом служить, но руководить вооруженными силами надо без погон. В Польше нам повезло, потому что в 1990-х, когда я стал замминистра ВС Польши, а потом и министром, наши военные согласились, что лучше держаться вне политики. В то время надо было принимать очень трудные политические решения, это было рискованно. Военные согласились, что это дело и ответственность политиков, а они *(военные)* в этом не участвуют. Плюс все помнили вмешательство армии в подавление забастовок, что привело к многочисленным жертвам *(в ходе волнений на севере Польши в 1970–1971 годах, по официальным данным, погибли 44 человека. – «**Народная Воля**»)*. Совокупность этих моментов позволила нам изменить ситуацию в Вооруженных силах. Сейчас военные структуры под хорошим контролем как со стороны парламента, так и со стороны прессы и общественности.

### Про зависимость белорусской армии от российской

– Ваши расходы на оборону небольшие: около 500 миллионов долларов, что составляет 1 процент от ВВП. В Беларуси нет автономной системы противовоздушной обороны. Она функционирует вместе с российскими ВВС. Есть и договор между странами, согласно которому при появлении угрозы для российских военных на территории Беларуси Россия может ввести свои войска. Это угроза для независимости Беларуси. Поэтому НАТО считает белорусскую армию частью российской.

Сегодня отношения между Россией и Западом нельзя назвать холодной войной. Это, скорее, очень холодный мир. Президент Путин понимает, что ни НАТО, ни Евросоюз нельзя напугать. Проблема в отношениях с Россией – отсутствие доверия. Россия показала, что не считает международное право обязательным для выполнения. Они используют тактику превентивной войны, которая является инструментом российской политики. Примером превентивной войны можно назвать конфликт в Грузии в 2008 году. Если тогда говорили, что на действия в Южной Осетии российских военных спровоцировали решения Саакашвили, то что с Абхазией? Там ничего не происходило. Но, по логике России, могло происходить. Поэтому и в Абхазию ввели войска. Это пример превентивной войны. Собственно, то же самое можно сказать и про Крым.

Для нас главное, чтобы Беларусь оставалась независимой. Надеюсь, что на территории вашей страны не произойдет ничего, что могло бы опять привести к похолоданию отношений между нашими государствами, которые за последние несколько лет изменились в лучшую сторону. В то же время действующий режим в Беларуси должен эволюционировать. Если взять польский опыт, то во времена Эдварда Герека *(первый секретарь ЦК Польской рабочей партии 1970–1980 годах. – «**Народная Воля**»)* было очень мало политических заключенных, постепенно развивалась и оппозиция, что в итоге привело к изменению политического строя.

### То, что Путин был заинтересован в сотрудничестве с НАТО, – миф

– Действительно есть мнение, что Путин, когда только стал президентом, хотел сотрудничать с Западом и НАТО. Но это миф. Россия всегда хотела участвовать в принятии важных решений вместе с НАТО и странами ЕС, хотела иметь право вето. Но в то время российская экономика составляла 5 процентов экономики Евросоюза, ВВП был на уровне голландского. Невозможно было считать их равным экономическим партнером. Если говорить о НАТО, Россия всегда старалась заблокировать расширение организации. Но поймите: никто никого не тянет ни в НАТО, ни в ЕС. Европейский Союз не хочет видеть у себя Украину, это Украина стремится туда. То же можно сказать и про членство в НАТО. Каждая страна имеет право вступить в союз, который считает для себя полезным. Это элемент суверенитета страны. Когда Россия создала ОДКБ *(Организация Договора о коллективной безопасности – региональная международная организация, членами которой на 2018 год являются Беларусь, Армения, Казахстан, Кыргызстан, Россия, Таджикистан. – «**Народная Воля**»)*, мы считали участие Беларуси в этом нормальным, это ваше право, никакой истерики по этому поводу не было. У России есть хороший инструмент для диалога с НАТО, это Совет Россия–НАТО (структура для развития сотрудничества между РФ и членами Североатлантического альянса). Но никаких предложений со стороны России там нет. Они хотят наравне с США всем управлять, не учитывая мнение европейских стран, что, конечно, невозможно.

**Алексей ШУНТОВ.**

НА ДАЛОНЯХ ВЕЧНАСЦІ

Анатоль БУТЭВІЧ

# Крыж Льва Сапегі



Беларуская гісторыя, як чароўная і скупая фея, беражна ахоўвае і ашчадна выдаткоўвае свае таямніцы. Не кожнаму адчыняе яна чарадзейны куфэрак. А ў ім багацця – лічыць не злічыць. Ёсць такія напаўзабытыя старонкі і ў жыцці знакамітага дзяржаўнага дзеяча Льва Сапегі з чарэйскай лініі роду Сапегаў. Ураджэнец вёскі Астроўна Віцебскага павета (цяпер у Бешанковіцкім раёне) быў у Вялікім Княстве Літоўскім вялікім канцлерам – другім чалавекам пасля вялікага князя, гаспадара дзяржавы.

Быў і дыпламатам, і ваяром, і культурным дзеячам. І, вядома ж, Сапега быў адным з багацейшых тагачасных магнатаў. Аднак багацці траціў разумна, дзеля карысці свайго народа. Яшчэ і дагэтуль на Браслаўшчыне існуе адна са старэйшых на беларускай зямлі Іказненская школа, да заснавання якой далучыўся Леў Сапега.

Дапамагаў Сапега многім цэрквам і манастырам. Напрыклад, Жыровіцкай царкве ён ахвяраваў багата аздобленае рукапіснае Евангелле. Але найбольшую цікавасць уяўляе факт уфундавання для Чарэйскага манастыра вялікага напрастольнага крыжа. Гэтая святыня ўвайшла ў гісторыю пад назвай «Крыж Льва Сапегі 1596 года».

Чарэйскі Свята-Траецкі манастыр існаваў амаль чатыры стагоддзі. Заснаваны ў 1454 годзе чарэйска-лукомскім князем Міхаілам Пяструцкім (Пструхам), які з'яўляўся смаленскім епіскапам, а пасля кіеўскім мітрапалітам. Гэта праз 200 гадоў пацвердзіў у даравальнай грамаце і Леў Сапега, да якога пазней перайшло Лукомскае княства.

Чарэя была напачатку буйным маёнткам Лукомскага княства, якое ў другой палове XVII стагоддзя ўвайшло ў Аршанскі павет, а пазней стала мястэчкам Сенненскага павета. Цяпер гэта вёска ў Чашніцкім раёне на беразе Чарэйскага возера, якое раней называлася Галаўля. Пасля смерці заснавальніка манастыр на 250 гадоў перайшоў пад апеку роду Сапегаў. Калі яго ўласнікам стаў Леў Іванавіч, там былі толькі драўляныя пабудовы «для старцев и старицъ». Сапега збудаваў на востраве, што на возеры Галаўля, мураваны манастыр і храм. Спецыяльнай даравальнай граматай Сапега засведчыў сваё і нашчадкаў права патранату над манастыром і паабяцаў захоўваць там толькі «грэцкую веру», а ігуменаў выбіраць толькі «закону грэцкага».

Праз усё жыццё Леў Сапега рабіў царкве і манастыру шчодрыя ахвяраванні. Вяртаючыся з ваенных паходаў, перадаваў абразы, царкоўны посуд, іншыя культавыя рэчы.

Адным з такіх дарункаў быў цудатворны абраз святой Багародзіцы. Некалі ён знаходзіўся ў Вялікім Ноўгарадзе. Паданні сведчаць, што калі скіфы даймалі горад асадай, месцічы папрасілі спрыяння ў Нябеснай заступніцы, шчыра маліліся перад абразом Божай Маці. Ён дапамог вытрымаць напад і разбіць ворага. У 1611 годзе войскі польскага караля і вялікага князя літоўскага Жыгімонта III Вазы ўвайшлі ў Ноўгарад, абраз перадалі Сапегу. Пасля смерці Льва Сапегі яго наследнік Казімір, маршалак і будучы вялікі канцлер, забыўся пра ікону. Ды аднойчы ў сне да яго з'явілася Багародзіца і папрасіла перанесці абраз у належнае яму месца. Ікону адшукалі і перадалі ў Жыровіцкі храм. Але Багародзіца з'явілася зноў і настойвала на сваім. Знакаміты абраз быў вернуты ў царкву Святой Тройцы Чарэйскага манастыра.

З імем Сапегі звязана і Чарэйская плашчаніца 1566 года. Гэты выдатны помнік праваслаўнай даўніны вылучаўся сваімі мастацкімі вартасцямі. Асабліва вышытымі на ім надпісамі. Ён захоўваўся пасля ў адным з мінскіх музеяў і знік у час Вялікай Айчыннай вайны.

Аднак не толькі ваенныя трафеі адрасаваў Сапега манастыру. У 1596 годзе вялікі канцлер заказаў для манастырскай царквы напрастольны крыж. Як зазначае знаны даследчык беларускай даўніны Е.Раманаў, які на сваё вочы бачыў Сапегаву святыню, крыж зроблены «з нізкапробнага серабра і, верагодна, быў пазалочаны». Меў у вышыню 61 сантыметр, з якіх трошкі больш за палову займала падстаўка. Чатырохканцовы, з трохпялёсткавымі канцамі, кожны з пялёсткаў заканчваўся невялікімі шарамі. Шырыня дрэва на крыжы складала чатыры сантыметры, таўшчыня – два. Была пазначана і дата вырабу.

Першапачаткова крыж упрыгожвалі каштоўныя камяні. На пярэднім баку знаходзілася адлітае распяцце Хрыста. Справа ад Збавіцеля ў медальёне з пялёсткаў быў выграваны воблік Багародзіцы, а злева – Яна. Верхнюю частку крыжа ўпрыгожваў выграваны раслінны арнамент. На адваротным баку – адлюстраванне святой Тройцы з адпаведным надпісам. На чатырох канцах крыжа ў медальёнах знаходзіліся сімвалы евангелістаў. На бакавінах – арнамент з ромбаў. Арнаментам шчодра ўпрыгожаны і ўвесь крыж. Унізе пашыранай часткі падстаўкі меўся абадок. На ім быў выразаны надпіс, які прыводзіць Е.Раманаў: «На честь и на хвалоу Гд-оу во Троцы единому я Лев Сапега канцлеръ Великого Княжства Литовского надаломъ сіи Крестъ на мана-стыръ Ст-ое Живоначалное Тр-цы оу именью моемъ отчызном Черей рокоу Ч-S».

Далейшы лёс крыжа згубіўся на пакручастых гістарычных сцежках.

ЭКСПЕРИМЕНТ

## Близнецы, разделенные космосом



В Соединенных Штатах Америки подвели итоги эксперимента, начавшегося в NASA (Национальном космическом агентстве Америки) еще в 2015 году. Тогда ученые предложили разлучить на год близнецов – двух взрослых мужчин – братьев Скотта и Марка Келли: Скотт Келли был отправлен в космос, а Марк остался на Земле. Учитывая, что физические параметры однояйцевых близнецов во всем совпадают, после годичного пребывания на орбите одного из братьев можно было исследовать те перемены, которые происходили в организме каждого из них.

NASA поделилось результатами своих экспериментов. Главный из них: космос воздействует на человеческий организм омолаживающе. Во всяком случае ряд параметров Скотта Келли после космического путешествия свидетельствуют об этом. Ряд клеток, которые отмерли у Марка, у его брата, пребывавшего в невесомости, прошли регенерацию. Это полностью противоречило рабочей гипотезе исследования: ученые были уверены в том, что пребывание человеческого организма в космосе столь длительное время способствует его старению.

По мнению NASA, перемены, произошедшие в организме Скотта Келли, аналогичны тому, как воздействует на человеческий организм любой стресс – начиная от восхождения в горы и заканчивая нырянием с аквалангом. Стоит вспомнить и то, насколько молодыми выглядят профессиональные стюардессы, несколько раз в неделю поднимающиеся в небо.

Таким образом, эксперимент, в котором вместо подопытных кроликов участвовали подопытные люди, завершился вполне успешно. Несмотря на изменения, которые произошли в организмах братьев, они остаются близнецами – хотя уже и не вполне одинаковыми. Впрочем, утверждает NASA, ни одна пара близнецов не является стопроцентно идентичной. А насколько длительным и последовательным окажется «омолаживающий эффект» космического путешествия, покажет время. Прошедший год в космосе и полтора года на земле – слишком небольшой срок, чтобы, опираясь на результаты такого эксперимента, запускать во Вселенную корабли с клиентами, желающими помолодеть.

**Федор КОНСТАНТИНОВ.**

ІХ НОРАВЫ

## Лула здаўся пераможцам

Былы прэзідэнт Бразіліі Луіс Інасіу Лула да Сілва, які быў асуджаны на 12 гадоў зняволення за карупцыю, вырашыў здацца паліцыі. Да гэтага ён двойчы падаваў апеляцыю, але суд двойчы адхіляў яе.

У 2011 годзе Лула пакінуў уладу, тлумачачы гэта станам свайго здароўя (у яго быў дыягнаставаны рак гартані), але пасля лячэння ў Сірыі заявіў, што вяртаецца ў палітыку. Праўда, на пачатку 2013 года Лула абвясціў, што больш не будзе балатавацца, а выбаршчыкам прапанаваў абраць у якасці сваёй пераемніцы дзеючую на той момант кіраўніцу дзяржавы Дыльму Русеф. Яна перамагла і нават прызначыла ў 2016 годзе Лулу кіраўніком сваёй адміністрацыі, што адразу дало яму статус недатыкальнага. Гэтае рашэнне выклікала шматмільённыя пратэсты, пасля чаго генеральны пракурор быў вымушаны ўсё ж такі вылучыць супраць Лулы абвінавачанне (такое выключнае права заставалася ў яго па законе). У рэшце рэшт прысуд быў вынесены. Ягонай пераемніцы Дыльме Русеф быў абвешчаны імпічмент.

ТРЭЦЯЯ СУСВЕТНАЯ?

## «Вар'ят» супраць «жывёліны»

Авіяцыйная база Т-4 сірыйскіх ВПС у Хомсе падверглася ракетнаму абстрэлу. Ёсць ахвяры, у тым ліку загінуўшыя. Сірыйскі бок сцвярджае, што былі збіты восем ракет і што абстрэл быў здзейснены амерыканцамі. Але ж Пентагон абвяргае выпучаныя супраць яго абвінавачанні.

Калі версія афіцыйнага Дамаска мае пад сабой рэальныя падставы, то зразумела, чаму менавіта ЗША выкарысталі ракеты супраць авіябазы Асада. Напярэдадні ўрадавыя войскі скарысталіся хімічнай зброяй супраць сірыйскага горада Дума, які кантралюецца апазіцыяй. Падчас хімічнай атакі 7 красавіка загінулі некалькі дзясяткаў чалавек. Прэзідэнт ЗША Дональд Трамп назваў пасля гэтага Башара Асада "жывёлінай" і жорстка раскрытыкаваў Расію і Іран за тое, што яны працягваюць падтрымліваць асадаўскі рэжым. Дарадца Трампа па пытаннях бяспекі з тэрарызмам і ўнутранай бяспецы Томас Босерт не выключыў магчымасць ракетнага ўдару па аналогіі з мінулым годам, калі ЗША абстралялі сірыйскія базы ў адказ на газавую атаку з прымяненнем сірыйскай арміяй зарину.

Дзевяць краін запатрабавалі склікаць экстраннае пасяджэнне Рады Бяспекі ААН. Хутчэй за ўсё, Злучаныя Штаты будуць ставіць пытанне аб увядзенні новых санкцый супраць рэжыму Башара Асада, які парушае канвенцыю аб нераспаўсюджванні і невыкарыстанні хімічнай зброі. Магчыма, Вашынгтон усё ж такі вырашыць распачаць больш маштабныя вайсковыя дзеянні супраць урадавых сірыйскіх войскаў. Але ж гэта можа стаць пачаткам новай рэгіянальнай вайны, якая – улічваючы і тое, што Расія ўжо моцна ангажавана ў сірыйскі канфлікт, – можа стаць пачаткам і глабальнага супрацьстаяння, у якім не будзе пераможцаў.

ФОТАФАКТ

## Праваслаўныя беларусы Варшавы сустрэлі Звеставанне і Вялікдзень у саборы Марыі Магдаліны



У мінулыя выхадныя праваслаўныя вернікі Польшчы адзначалі адразу два святы – Звеставанне Найсвяцейшай Багародзіцы (у суботу) і Вялікдзень. Па традыцыі цэнтрам урачыстасцяў стаў кафедральны сабор Святой Роўнаапостальнай Марыі Магдаліны. Гэты храм, узведзены напрыканцы 1860-х, носіць найвышэйшы статус сярод усіх цэркваў Польшчы з 1921 года. Звязаны з ім і старонкі беларускай гісторыі. Нашых суродзічаў досыць многа сярод 150 тысяч праваслаўных за Бугам.

Наведванне храма ў святочныя дні – гэта магчымасць судакранацца з царкоўнымі таінствамі і сустрэцца з суайчыннікамі. Больш за ўсё сюды прыходзяць украінцы. Але і праваслаўныя з іншых краін – беларусы, рускія, грузіны, армяне, сірыйцы – нагадваюць пра сябе. «Хрыстос уваскрэс! Сапраўды ўваскрэс!» – гэты зварот гучаў у Вялікдзень пад скляпеннямі старога сабора на мовах народаў розных куткоў Еўропы і Азіі.

А святары звярталіся да паствы па-царкоўнаславянску – падчас малітвы і па-руску ды па-польску падчас казані. Такая традыцыя склалася яшчэ ў XX стагоддзі.

– Прынеслі яйкі? А што такое яйка? – звярнуўся святар да гурту людзей, што сабраліся ля стала, выстаўіўшы на яго кулічы і яйкі. – Гэта сімвал нашага жыцця. Унутры яйка схавана жывая істота, якая сама павінна прабіцца знутры, а не хтосьці мусіць яму адкрыць дарогу ў свет.

Візіт у храм – гэта і добрая традыцыя, і нагода хаця б трошачкі пазнаць сэнс хрысціянскай веры.

**Віктар КОРБУТ.**
**Фота аўтара.**

СКАНДАЛ

## Германскі суд адмовіў у выдачы лідара каталонскіх сепаратыстаў

Былы кіраўнік Каталоніі **Карлес Пучдэмон** можа спаць спакойна: суд федэральнай нямецкай зямлі Шлезвіг-Гальштэйн адмовіў уладам Іспаніі ў яго выдачы. Галоўнай падставай для адмовы стаў той факт, што ўсе дзеянні Пучдэмона, якога абвінавачваюць у дзяржаўнай здрадзе і спробе дзяржаўнага перавароту, мелі выключна мірны характар. Экстрадыцыя немагчыма, паколькі ўчынкі Пучдэмона не падпадаюць пад крымінальны пераслед на тэрыторыі самой Германіі.

Згодна з меркаваннем шэрагу еўрапейскіх аналітыкаў, такім чынам створаны вельмі небяспечны прэцэдэнт: зараз кіраўнік любога сепаратысцкага руху ў любой краіне свету пасля няўдалай спробы аддзяліць нейкі кавалак краіны ад асноўнай яе тэрыторыі, калі яго дзеянні насілі выключна палітычны характар, можа пазбегнуць пакарання, пераехаўшы на пастаяннае месца жыхарства ў Германію.

У ДВУХ СКАЗАХ

***

У Фінляндыі ўпершыню немаўля нарадзіў мужчына, які стаў мужчынам у выніку аперацыі па змене полу: да 2015 года ён быў жанчынай, і вось зараз вырашыў скарыстацца біялагічнай магчымасцю стаць маці. Паколькі ўсе дакументы былі ў свой час зменены ў адпаведнасці з фінскім заканадаўствам, узнікла праблема: маці ўжо мела ідэнтыфікацыйны нумар мужчыны, а значыць, электронная сістэма рэгістрацыі адмаўлялася рэгістраваць яе зноўку як жанчыну.

***

Зямля вакол славутага расійскага возера Байкал актыўна выкупляецца і забудоўваецца кітайскімі інвестарамі. З'явілася нават праблемы для браніравання паездак на Байкал груп расійскіх турыстаў: усё ўжо распісана для гасцей з Кітая.

ПРЯМАЯ ЛИНИЯ



# Как защитить свое сердце?

(*Окончание. Начало в №28.*)



*Чем опасна мерцательная аритмия? Какие анализы необходимо сдавать и с какой периодичностью, чтобы не пропустить сердечные заболевания?*

*Продолжаем публиковать ответы кардиолога, заведующего кардио-ревматологическим отделением медицинского центра «ЛОДЭ»* ***Андрея Петровича Мистюкевича*** *на вопросы читателей «Народной Воли» в ходе «Прямой линии».*

## Тахикардию может вылечить эндокринолог

**– Андрей Петрович, добрый день! Звоню по поводу своей дочери. Ей 50 лет, три года назад она перенесла онкологическое заболевание, сейчас все более-менее нормально, она работает. Но у нее очень высокий пульс – 100–105 и очень низкое давление – 110/70. Что делать?**

– Как долго у нее такой высокий пульс? Есть ли проблемы со щитовидной железой?

**– Говорит, что пульс такой с детства, не могла порой спать, так билось сердце. А что касается щитовидной железы, на УЗИ сказали, что серьезных проблем нет.**

– Нередко бывает, особенно у молодых людей, что к тахикардии приводят патологии в эндокринной системе. Поэтому, чтобы определиться с лечением, вашей дочери необходимо сдать анализ крови на гормоны щитовидной железы, посмотреть три основных показателя – ТТГ, Т4 и антитела к ТРО.

Нередко такое состояние, как у вашей дочери, бывает и у людей с сахарным диабетом. Поэтому еще одна рекомендация – сдать не просто анализ крови на сахар, а сделать глюкозотолерантный тест, который позволяет определить, если у пациента серьезное преддиабетическое состояние или сахарный диабет. Также необходимо сдать общий анализ крови, и если содержание гемоглобина будет снижено, необходимо определить уровень сывороточного железа, общей железосвязывательной способности плазмы крови, ферритин, потому что часто причиной тахикардии становится анемия. И в зависимости от результатов дообследований проконсультироваться у эндокринолога.

В вашей ситуации я также рекомендовал бы УЗИ сердца, чтобы посмотреть сократительную способность сердца, клапаны, есть ли структурные изменения сердца и т.д., потому что иногда химиотерапия сказывается на работе сердца.

И наконец необходимо сделать холтеровское (суточное) мониторирование ЭКГ, которое позволяет снимать кардиограмму в течение суток и более. Это исследование позволит просчитать среднюю частоту сердечных сокращений за сутки и определить, нет ли каких-либо других более сложных нарушений ритма в виде пароксизмальной тахикардии, нет ли нарушений сердечной проводимости.

Только после тщательного обследования можно определиться с лечением.

**– Можно ли лечить тахикардию бета-блокаторами?**

– Подобрать эффективную дозу и препарат может только врач, имея на руках результаты обследований, которые я вам перечислил.

## Мерцательная аритмия требует лечения

**– Добрый день! У меня фибрилляция предсердий. Это очень опасно?**

– Фибрилляция предсердий, или мерцательная аритмия, – довольно распространенный вид нарушений сердечного ритма. У пациентов с мерцательной аритмией высок риск инсульта. Ведь что происходит? Без полноценного сокращения предсердий кровь застаивается в них, в результате чего в полостях сердца образуются сгустки – тромбы. Они могут оторваться и попасть в мозг, тогда очень часто возникает ишемический инсульт.

**– Скажите, а как проявляется мерцательная аритмия? Я, например, не очень-то ее и слышу, хотя врачи диагностируют постоянную форму.**

– Учащенное сердцебиение, когда есть ощущение, что сердце скачет, трепещет, нерегулярный пульс, одышка, головокружение – все это признаки мерцательной аритмии. В норме сердце должно биться ритмично, могут быть небольшие паузы, но не должно быть задержек и ощущения явных перебоев. Считается нормальной частота пульса от 60 до 80 ударов в минуту в состоянии покоя. Пульс можно прощупать на запястье и на сонной артерии.

**– Что нужно делать, чтобы предупредить образование тромбов?**

– Пациенты с постоянной мерцательной аритмией обязательно должны принимать антикоагулянты – препараты, направленные на предупреждение тромбообразования. Необходимость назначения антикоагулянтов определяется по шкале риска возможного развития инсульта (CHA2 DS2-VASc). При наличии двух и более баллов пациенту показано назначение антикоагулянтов. Но эти средства имеют побочные эффекты в виде кровотечения, поэтому их прием требует строгого контроля, особенно у пожилых людей. Очень важно проводить регулярный контроль такого показателя, как МНО (международное нормализованное отношение). Среднее значение МНО составляет 2,0–3,0.

Пациентам, которые принимают антикоагулянты, надо придерживаться диеты, исключать из своего рациона зеленый чай, капусту, печень и т.д.

При длительном хроническом нарушении сердечного ритма назначаются бета-блокаторы. Также обязательно нужно принимать препараты из группы ингибиторов ангиотензин-превращающего фермента, они будут и давление регулировать, и замедлять прогрессирование сердечной недостаточности.

**– Неужели нет ничего более эффективного, чтобы обуздать аритмию? Как вы относитесь к радиочастотной абляции?**

– Это малоинвазивный хирургический метод лечения мерцательной аритмии. Током прижигаются зоны, вызывающие аритмию. Эффективность этой процедуры достаточно высокая. Чаще врачи прибегают к такому лечению, когда аритмия не поддается медикаментозной коррекции.

**– Скажите, пожалуйста, а как мерцательная аритмия влияет на митральный клапан?**

– Мерцательная аритмия очень часто сопутствует таким порокам, как стеноз митрального клапана. Обычно у пациентов, у которых есть митральный порок сердца, происходит расширение левого предсердия, повышается давление в легочной артерии, происходит расширение предсердий. А развитие мерцательных аритмий очень четко коррелируется размерами предсердий: чем больше размеры предсердий, тем выше вероятность формирования такого рода нарушения ритма.

**– Если у меня ревматический порок митрального клапана, поможет только операция?**

– Не все пороки требуют оперативного вмешательства. Существуют показания для операции. Например, пациенты с ревматическим поражением с минимальным проявлением порока могут очень длительно обходиться без оперативного вмешательства. Но только в том случае, когда выполняется медикаментозная терапия.

## Когда аневризму надо оперировать?

**– Андрей Петрович, отчего происходит разрыв аорты? Внезапно может рвануть?**

– Сначала стенки сосуда расширяются, потом расслаиваются, и в определенный момент, когда стенка истощена до критического предела, происходит разрыв аорты.

**– Этот разрыв случается при аневризме?**

– Аневризма – очень серьезный фактор риска смерти. Человек, страдающий этим недугом, рискует своей жизнью, можно сказать, ежесекундно. Аневризма может разорваться молниеносно, а может несколько суток и даже недель надрываться, потом приостанавливаться, потом опять надрываться, и происходит это не всегда с ярко выраженной клинической картиной. Поставить диагноз в таких случаях непросто. Когда происходит классическое расслоение аорты, симптомы более выражены – это сильная кинжальная боль в грудной клетке, пациенты часто теряют сознание, падает давление, происходят изменения в кардиограмме. Такое состояние доктор «скорой помощи» не пропустит.

**– А выполняют ли операцию при аневризме?**

– Конечно, выполняют. Для хирургического вмешательства должен быть целый ряд показаний. Знаменитый американский кардиохирург Майкл Дебейки, который хотел в свое время оперировать Бориса Ельцина, создал квалификацию расслоения аорты.

Операции при аневризме имеют определенные риски. Но сегодня белорусская кардиохирургия находится на очень высоком уровне, наши хирурги виртуозно владеют техникой, они профессионалы высочайшего класса.

**– Дело в том, что мой одноклассник умер от аневризмы, а у меня расширена аорта – 48-50 миллиметров. Надо делать операцию?**

– Не каждая аневризма приводит к разрыву аорты. При ультразвуковом исследовании можно обнаружить аневризму даже в том случае, когда опасного расширения сосуда еще нет. Врач УЗИ, который видит расширение сосуда, может квалифицировать это как аневризму, а кардиохирург скажет, что это не показание для операции. В вашей ситуации необходима консультация кардиохирурга. Но вы обязательно должны следить за следующими показателями. Артериальное давление у вас должно быть не выше, чем 120 на 80, в идеале 120 на 70. Должны следить за уровнем холестерина, чтобы не была нарушена липидная формула. Вы должны давать себе дозированные физические нагрузки. Следить, чтобы не было других факторов риска: не допускать лишнего веса, отказаться от курения, если имеете эту привычку.

**– Спасибо, понял. Хотя вот что любопытно. В 45 лет мне ставили диагноз «атеросклероз аорты», а сейчас мне 70, и пишут «расширение аорты». Как при атеросклерозе она могла расшириться?**

– Атеросклероз аорты – это серьезный фактор риска развития аневризмы аорты. Она на этом фоне и развивается.

## Три вида одышки

**– Галина Феликсовна беспокоит. Недавно исполнилось 80 лет. Хотела бы проконсультироваться вот по какому вопросу. У меня порок сердца, давление высокое (я его контролирую). Болей в сердце нет, сердцебиения учащенного не слышу, но в последнее время замучила одышка. Что это может быть?**

– Одышка в состоянии покоя или при нагрузке?

**– При нагрузке, ходить совсем не могу.**

– Причиной вашей одышки может быть сердечная недостаточность на фоне порока сердца и артериальной гипертензии. Вероятность заполучить аритмию в пожилом возрасте в разы выше, чем в молодости, есть много сопутствующих факторов. По сути, сердечная недостаточность – это проявление течения различных заболеваний, связанных с поражением сердечной мышцы, клапана и т.д. Развивается она в результате того, что постепенно формируется снижение сократительной способности миокарда левого желудочка. Сердце начинает хуже перекачивать кровь по сосудам, и органы недополучают питательных веществ и кислорода. Проявляется сердечная недостаточность сначала незначительной одышкой при физической нагрузке, потом при незначительной нагрузке, а потом и в состоянии покоя. Потом к этой одышке добавляются отеки на ногах, пациент может замечать, что увеличился живот, его как бы стало раздувать.

**– И что делать?**

– Когда есть сердечная недостаточность, первая задача – стабилизировать течение заболевания сердца, на фоне которого она возникла. Также к проводимому лечению нужно добавить препараты группы ингибиторов ангиотензин-превращающего фермента, они будут и давление регулировать, и замедлять прогрессирование сердечной недостаточности. Если есть линий вес, надо постараться его сбросить, следить за показаниями холестерина в крови, чтобы они были в норме. И, несмотря на одышку, каждый день совершать получасовые пешие прогулки.

**– А как отличить сердечную одышку от бронхиальной, астматической?**

– Сердечная, кардиологическая одышка – инспираторная, тяжело сделать вздох. У такого пациента долгий вдох и быстрый выдох. При экспираторной одышке, связанной с бронхообструкцией, наоборот: пациент быстро вдыхает и шумно, длительно выдыхает.

Бывает еще третий вариант одышки, так называемая невротическая, или функциональная. Она хорошо была описана знаменитыми клиницистами в начале прошлого века. Такая одышка часто возникает у молодых людей. Им кажется, что у них проблемы с сердцем, они жалуются на нехватку воздуха. А на самом деле это состояние возникает из-за психоэмоциональных перегрузок. На работе задавлены психологически, в семье проблемы… Эти одышки хорошо убираются аутотренингом или препаратами, которые регулируют психосоматику.

## Проблемы в шее, а болит в области сердца

**– Звоню из Бреста. Андрей Петрович, может быть, вы подскажете, что делать при частых спазмах и головных болях? Давление при этом нормальное.**

– Кардиологические головные боли как раз таки вызывает повышенное давление. У вас давление в норме. Поэтому вам следует обратиться за консультацией к неврологу. Очень часто причиной головных болей являются проблемы в шейном отделе позвоночника.

**– Здравствуйте! Около месяца мучаюсь проблемой ноющих болей в области сердца. Мне 35 лет, занимаюсь силовыми видами спорта. Ходил на прием к врачу, сделал ЭКГ. Вроде бы все нормально. И давление хорошее. Но я чувствую слегка сдавливающие, ноющие боли в области сердца, за грудиной (напоминает невралгию). Часто наблюдаю мышечные спазмы по всему телу. По вечерам иногда ощущаю жар, хотя температура абсолютно нормальная. Никаких острых и жгучих болей нет. Замечаю быстрое утомление организма, но питаюсь я отлично, придерживаюсь режима. Что это может быть?**

– Прежде всего я посоветовал бы вам сделать МРТ шейного отдела позвоночника, чтобы уточнить, нет ли там изменений структуры позвонков – остеохондроза, грыж, протрузии диска. Потому что ваши симптомы очень похожи именно на проблемы в позвоночнике.

Но, несмотря на молодой возраст, могут быть и сердечные проблемы. Часто они возникают именно у людей, которые занимаются силовыми видами спорта. Происходит гипертрофия миокарда левого желудочка, и у этих пациентов в гипертрофированной мышце бывает относительный дефицит коронарного кровотока. Поэтому надо выполнить нагрузочный тест – велоэргометрию или тредмил-тест – и с его результатами обратиться к кардиологу.

## Регулярно сдавать анализы надо после 40 лет

**– Андрей Петрович, добрый день! У меня только один вопрос: какие нужно делать анализы, исследования и с какой периодичностью, чтобы не пропустить сердечные заболевания?**

– Мужчинам старше 40 лет раз в год необходимо делать ЭКГ, определять уровень общего холестерина, липидных фракций, мочевины, креатинина, АЛТ, АСТ, глюкозы крови, гликированного гемоглобина, калия, натрия, сдавать общий анализ крови, общий анализ мочи. Следить за массой тела, отказаться от вредных привычек, больше уделять внимания физической нагрузке, быть более стрессоустойчивым. Женщинам рекомендованы такие же обследования плюс осмотр гинеколога.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ПАЛІТКУХНЯ

## У Лябедзькі няма жадання ўдзельнічаць у выбарах




***Анатоль Лябедзька пакуль не плануе чарговы раз вылучацца на пасаду старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Пры гэтым палітык не выключае розных сцэнарыяў развіцця падзей падчас сёлетняга справаздачна-выбарчага з'езда.***

Пра гэта ён распавёў у інтэрв'ю "Радыё Рацыя":

*– У мяне даўно ўжо ёсць жаданне крыху змяніць сваю дзейнасць. Я рабіў заяўку яшчэ і перад мінулым з'ездам, што не збіраюся балатавацца. Але абставіны так склаліся, што прыйшлося. Асабіста на сённяшні дзень жадання і планаў удзельнічаць у выбарах у мяне няма. Але жыццё ідзе, і самыя розныя могуць быць сцэнарыі.*

Анатоль Лябедзька з'яўляецца старшынёй АГП з 2000 года. Да гэтага кіраўніком партыі быў Станіслаў Багданкевіч, цяпер ганаровы старшыня АГП.

РАКУРС

## Больш за палову беларусаў працуюць у дзяржаўным сектары

Пры гэтым, адзначыў кіраўнік прадстаўніцтва Сусветнага банка ў Беларусі Алекс Крэмер, "*прадукцыйнасць у прыватным сектары на 40 працэнтаў вышэйшая, чым у дзяржаўным. Больш за тое, прадукцыйнасць працы ў прыватным сектары расце ў чатыры разы хутчэй, чым у дзяржсектары*".

У той жа час у большасці еўрапейскіх краін, паводле слоў Крэмера, у дзяржсектары занята каля 20–25 працэнтаў эканамічна актыўнага насельніцтва.

ЛИЧНАЯ ЖИЗНЬ

## Дакота с мужем и дочкой переехала в особняк за Московскую кольцевую автодорогу

У певицы из Беларуси Юлии Дакоты (настоящее имя – Маргарита Герасимович) в личной жизни все отлично. На днях в социальных сетях она поведала радостную для себя новость.

«Ура, друзья, мы переехали! – написала Дакота. – Теперь мы живем в уютнейшем домике в паре километров от МКАД. У дома огромная территория с бассейном. К нему пристроена большая веранда. Недалеко от нашего участка – озеро. Только с появлением семьи мой внутренний воинствующий житель мегаполиса заткнулся и уступил семейному любителю барбекю и бане. Ну, или просто уступил мужу, что тоже правда!»



Муж Дакоты российский певец, а с недавних пор и актер Влад Соколовский. Пара познакомилась еще в 2007 году на «Фабрике звезд». 3 июня 2015 года они обвенчались, а через несколько дней сыграли роскошную свадьбу. В октябре прошлого года у Дакоты и Соколовского родилась дочка Мия.

**Светлана СУМОВА.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
10 КРАСАВІКА 2018 г.

АСОБА

# «Беларуская дзяржава з-за тупасці асобных чыноўнікаў штомесяц губляе скарбы»

*У пасёлку Краснасельскім на Ваўкавышчыне немагчыма не звярнуць увагу на трохпавярховы мураваны будынак з "Пагоняй" на фасадзе. Узвёў яго не мясцовы алігарх пад жытло, а ўлюбёны ў беларускую гісторыю краязнавец – пад музей. Пра справу свайго жыцця будаўнік, калекцыянер і шукальнік скарбаў* ***Міхась Вераціла*** *пагадзіўся расказаць чытачам "Народнай Волі".*

**– Спадар Міхась, ваш музей нават з выгляду ўражвае. Трохпавярховы, мураваны з цэльнага камення. Калі ўжо ён прыме першых наведвальнікаў?**

– Працы яшчэ многа. Усярэдзіне ўсе паверхі ўжо атынкаваны, але пакуль мой музей нагадвае склад матэрыялаў. Экспазіцыю я пакуль толькі прадумваю, вельмі шмат трэба будзе экспанатаў раскласці. Хоць я на многае не замахваюся – хачу найперш паказаць гісторыю Ваўкавыскага краю. Найперш – знакамітыя краснасельскія крэмнездабыўныя шахты. У мяне ёсць такія матэрыялы, якіх няма, напэўна, і ў сталічных музеях. Наогул, у гістарычных музеях Мінска, Гродна і Ваўкавыска шмат экспанатаў з маёй калекцыі. У свой час я дняваў і начаваў у тых шахтах, у крэйдавых капальнях, выхопліваючы артэфакты з-пад чарпака экскаватара. А ўпершыню я залез туды яшчэ вучнем 9-га класа. Да гэтай пары памятаю закуродымленыя сцены, кастрышча ў цэнтры калодзежа шахты, зашмальцаваныя пралазы ў штрэкі.

**– І што вы знаходзілі ў тых шахтах?**

– Шмат што. Скажам, кірку з аленевага рога. Уявіце сабе: як паклалі яе 5000 гадоў таму, так яна і ляжала. А на сценцы шахты – баразёнкі, выдрапаныя сілуэты. Такое адчуванне было, што ўсяго хвілін 20 таму адтуль вылез шахцёр. Аж мурашкі халодныя па спіне бегалі. Самі шахты неглыбокія – 3–4 метры. Але яны нагадваюць дрэва, ствол якога працінае некалькі гарызантальных пластоў крэменю, ад якога разыходзіліся галіны-штрэкі ў розныя бакі.

**– Што яшчэ з цягам часу змогуць пабачыць наведвальнікі ў вашым музеі?**

– Каля 60 дакументаў з XVI па XIX стагоддзе, ёсць нават з подпісамі каралёў і вялікіх князёў – Яна ІІ Казіміра, Яна ІІІ Сабескага, Аўгуста ІІ Моцнага. Ёсць грамата з аўтографам і пячаткай канцлера Льва Сапегі, магнатаў ВКЛ – Пацаў, Радзівілаў, Агінскіх. Вельмі багатая ў мяне нумізматычная калекцыя – манеты і папяровыя грошы я збіраю з 10-гадовага ўзросту. Цэлую залу можна зрабіць.

**– Калі б сёння вы залезлі ў тыя крэмнездабыўныя шахты, вас назвалі б чорным капальнікам і прыцягнулі б да адказнасці. Як вы ставіцеся да новага заканадаўства ў гэтай галіне?**

– А хто б сёння ведаў столькі падрабязнасцяў пра краснасельскія шахты, калі б не сабраныя мною артэфакты? Я даўно гэтую праблему спрабаваў узняць. Дзякуй "Народнай Волі" (я выпісваю яе з першага нумара), якая, пачынаючы з 2009 года, надрукавала па гэтай тэме некалькі артыкулаў. Вось і нядаўна быў змешчаны артыкул "Ці варта аддаваць дзяржаве пярсцёнак з дыяментам?". Мне шкада, што ў нас уся справа так павярнулася і такія людзі, як я, залічаны ў чорныя капальнікі. Асабліва гэту тэму педаліраваў дэпутат Палаты прадстаўнікоў Ігар Марзалюк. А чаму не зрабіць у Беларусі так, як зроблена, скажам, у Вялікабрытаніі? Я недзе чытаў пра англічанку Мэры Ханебі, якая сем гадоў палявала на скарбы з металашукальнікам. І вось у 2009 годзе яе напаткала ўдача. Яна знайшла залаты выраб, які праляжаў у зямлі прыкладна 500 гадоў. Ён быў ацэнены ў 250.000 фунтаў стэрлінгаў. Паводле брытанскага заканадаўства, той, хто адшукаў скарб, павінен паведаміць пра яго ўладам і прадаць сваю знаходку (прыкладам, у нейкі музей) па рынкавым кошце. Прычым дзяржава мае права быць першым пакупніком. Мэры Ханебі працавала на кухні ў адным з танных пабаў, і цяпер наўрад ці туды вернецца, легальна прадаўшы сваю знаходку. А паводле беларускага заканадаўства, той, хто знайшоў скарб, атрымае "фігу". Ды яшчэ яго назавуць чорным капальнікам. Таму пра свае знаходкі беларусы паведамляюць вельмі рэдка. З-за гэтага беларуская гістарычная навука і ўся дзяржава губляюць прыблізна па адным скарбе ў месяц. На маю думку, трэба тэрмінова прыняць закон, дзе павінна гаварыцца: кожны чалавек, што знайшоў скарб, павінен зарэгістраваць яго ў Нацыянальнай акадэміі навук, але – як сваю ўласнасць. Дзяржава мае першачарговае права ягонай куплі – па рынкавым кошце. Толькі ў такім выпадку ў нашы музеі трапіць усё знойдзенае ў Беларусі. А пакуль што яно патаемна вывозіцца за мяжу. З-за чыноўніцкай тупасці дзяржава нясе страты.




**– Вас залічылі ў чорныя капальнікі, а мне сустракаліся спасылкі на вашы працы і знаходкі ў энцыклапедычных выданнях.**

– На жаль, мне не пашчасціла атрымаць вышэйшую адукацыю. Калі я вучыўся ў 9-м класе, памёр бацька, і трэба было думаць, як дапамагаць сям'і. Але маё самае вялікае захапленне – гісторыя. Нешта ж я зрабіў на гэтай ніве, бо сапраўды маё імя шэсць разоў упамінаецца ў энцыклапедыі "Археалогія і нумізматыка Беларусі" (1993), пяць разоў – у энцыклапедыі "Археалогія Беларусі" (2009). Зразумела, не за прыгожыя вочкі. А ў вачах згаданага Марзалюка я – чорны капальнік… І мне хочацца спытацца: дзе былі "белыя капальнікі" (якія праводзяць раскопкі па ўсіх правілах), чаму, скажам, гэтак званы пояс Вітаўта знайшлі не яны? Таму поясу цаны няма, яго нядаўна нават вывозілі паказваць на Блізкі Усход. Чаму "акадэмічныя капальнікі" даследуць толькі тое, што адшукалі мы, "чорныя капальнікі"? Прычым ім за гэта яшчэ і грошы плацяць. А мы свае адкрыцці робім дарма, кіруючыся толькі адной любоўю да Беларусі. Чаму той жа спадар Марзалюк не днюе і начуе ў полі, а пралез у дэпутаты? Гэта ён так любіць гісторыю і археалогію – у мяккім дэпутацкім крэсле?

**– А ў вас ёсць неад'емная "зброя" чорнага капальніка – металашукальнік?**

– Пакуль няма, гэта даволі дарагая рэч, а я звычайны пенсіянер. Але як толькі знайду скарб, абавязкова набуду. Праўда, золата мяне не любіць, і я яго таксама. Мой любімы метал – срэбра. У выглядзе паўгрошаў часоў ВКЛ – гэта ж такая прыгажосць! З манетамі можна цікава паразмаўляць. Вось з людзьмі часам цяжка дамовіцца.

**– А колькі старажытных манет у вашай калекцыі?**

– Недзе каля 4000, больш дакладна сказаць не магу, бо з 1963 года не рабіў інвентарызацыю сваіх збораў. Апошняя, леташняя, знаходка – прускі грош. Праўда, ён настолькі сцёрты, што немагчыма дакладна вызначыць час выпуску.

**– На Ваўкавышчыне прадпрымальнік Павел Бераговіч стварае музей беларускай шляхты, выкупіўшы былую панскую сядзібу ў Падароску. Як вы лічыце, такі музей патрэбны?**

– Вядома ж, патрэбны. І не толькі музей шляхты. Скажам, у пасёлку Краснасельскі быў бы дарэчы музей будаўнічых матэрыялаў – у нас жа больш за сто гадоў дзейнічае цэментны завод, з краснасельскага цэменту Астанкінская вежа збудавана.

**– У вашым будучым музеі цэлыя тры паверхі. Трэба ж нечым іх запоўніць.**

– Сваёй калекцыяй я магу запоўніць і пяць паверхаў! Скажам, на першым паверсе паказаў бы тыя ж шахты. Потым асобна можна было б аддзел крэменю зрабіць. Крэмень – гэта ж яшчэ і агаты, халцэдоны, а яны такія прыгожыя! Асобны паверх для нумізматыкі, баністыкі, фалерыстыкі і геральдыкі адвёў бы – пад грошы і медалі. Чацвёрты паверх – сялянскі побыт, этнаграфія. У асобнай экспазіцыі рэдкія кнігі выставіў бы. У мяне ёсць арыгінальныя кнігі, якія я зрабіў сваімі рукамі. Скажам, "Дзікае паляванне караля Стаха". Калі аповесць Уладзіміра Караткевіча, друкавалася ў часопісе "Маладосць", я выдраў старонкі, уставіў у пераплёт і адаслаў Караткевічу. Пісьменнік і мастак Пятро Драчоў паставілі аўтографы і адаслалі кнігу мне, і яна цяпер існуе ў адным экзэмпляры. Альбо ў свой час я ад рукі перапісаў у музеі Алеся Белакоза ў Гудзевічах "Батанічны слоўнік" Зоські Верас. Я быў проста ўражаны тым слоўнікам, выдадзеным у 1924 годзе на чатырох мовах – на лаціне, польскай, беларускай і рускай. Той слоўнік я перадрукаваў на машынцы, гэтым разам у трох экзэмплярах. Пераплёў у кардонную вокладку, зрабіў цісненне золатам. Адзін экзэмпляр падарыў Адаму Мальдзісу, другі – Міхасю Чарняўскаму, а трэці адаслаў Зосьцы Верас. Яна была вельмі даверлівым чалавекам, варта было сказаць, што ты беларус з Гродзеншчыны, – і яна адразу ўспрымала цябе як сябра. Мы ліставаліся, яна запрашала мяне ў госці ў сваю лясную хатку пад Вільнюсам. На жаль, я тады не змог вырвацца з працы. А праз некаторы час даведаўся, што хатку Зоські Верас нехта спаліў. Я так пасля перажываў, што не паехаў! Бо Зоська Верас (ёй тады ўжо было за 90) паведамляла, што ў яе на гарышчы ёсць багата розных старадрукаў. І ўсё пайшло дымам у неба...

**– Я чытаў успаміны Зоські Верас, дык яна шкадавала, што не мае каму пакінуць свае ўнікальныя зборы. А ў вас ёсць нашчадкі, якія з часам заапякуюцца вашым музеем?**

– На жаль, мае нашчадкі ніякага інтарэсу да маіх калекцый не праяўляюць. Але, можа, знойдзецца хто… Гэта ж аднаго камення колькі я перацягаў! Таўшчыня сцяны недзе каля паўметра. Я зямлю ўсіх сваіх суседзяў ад камянёў пазбавіў. І цяпер сам дзіўлюся, як такія камяніскі падымаў вышэй свайго росту. Бо не карыстаўся ні кранам, ні іншымі прыладамі – усё на пупку паднята, па адным, паціхеньку. Гэта ўжо, відаць, такая рыса Казярога – імпэт да будоўлі, да відавочнага выніку. Каб потым сказаць самому сабе: а я ўсё ж справу свайго жыцця зрабіў!

**Гутарыў Антось БРЫЛЕЎСКІ.**

**На фота: Міхась Вераціла каля свайго музея.**

ПРЫВАТНАЕ ЖЫЦЦЁ

## Аляксандр Ярашук сустрэўся з братам

*Старшыня Беларускага Кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў вырас у вялікай сям'і – у яго былі тры браты і чатыры сястры, ён самы малодшы. Сёння з васьмі дзяцей засталося пяць, прычым у Беларусі жывуць толькі Аляксандр і Іван Ярашукі.*



*"Прыехаў на Вялікдзень да сябе на радзіму ў Камянецкі раён,* – падзяліўся падрабязнасцямі прыватнага жыцця **Аляксандр Ярашук**. – *Сустрэўся з родным братам Іванам Иллічом, ён на тры гады старэйшы за мяне, сёлета яму споўніцца 70. Ці трэба казаць, як рады мы былі нашай сустрэчы!"*

*"Мае дзве старэйшыя сястры і брат жывуць у Курску,* – распавёў "Народнай Волі" Аляксандр Ілліч. – *А мы з Іванам засталіся тут. Я люблю бываць на сваёй радзіме. Бачымся мы з братам некалькі разоў на год, але стэлефаноўваемся вельмі часта – некалькі разоў на тыдзень. У яго таксама вялікая сям'я – тры дачкі і сын, шэсць унукаў".*

Сёння Іван Ярашук на пенсіі, а да гэтага працаваў старшынёй сельскага Савета. *"І пры гэтым ніколі не хаваў сваіх палітычных поглядаў, увесь час выпісваў "Народную Волю",* – распавядае Ярашук. – *А не так даўно яго ўзнагародзілі граматай за адданую працу – ён нават і сам здзівіўся…"*

## Валянціна Гарцуева падзякавала родным і сябрам

*Актрыса Купалаўскага тэатра Валянціна Гарцуева днямі адзначыла не толькі Вялікдзень, але і 32-і дзень народзінаў.*



– Самае загадкавае ў маім жыцці супадзенне свята Вялікадня, дня нараджэння і спектакля "Чорная панна Нясвіжа"! – *падзялілася сваімі пачуццямі* ***Валянціна Гарцуева***. – Дзякую за цёплыя віншаванні ўсім маім добрым сябрам і сябрам маіх сяброў, маім таленавітым калегам і маім цудоўным бацькам, усім маім выдатным сваякам і майму дарагому мужу. І ўсім, хто побач.

## Слава Нагорны наведаў бацькоў

*Зорная сям'я артыстаў Лесі Кодуш і Славы Нагорнага адзначыла Вялікдзень разам з бацькамі.*



*"Трэба дома бываць часцей... Каб не страціць святое штосьці… Са святам, сябры!"* – падпісаў вельмі цёплы сямейны фотаздымак з бацькамі, жонкай і дачкой артыст і ўладальнік святочнага агенцтва Слава Нагорны.

## Наташа Поткіна вывезла дзяцей на Мінскае мора

*Вядомы беларускі дызайнер распавяла, што гэта была яе першая паездка з дзецьмі на прыроду ў гэтым годзе.*



*"І першы раз малыя выехалі за горад,* – адзначыла *Наташа Поткіна*, якая выхоўвае чатырох дзетак. – *Якое выдатнае надвор'е!"*

Апошнія роды даліся Наталлі Поткінай няпроста: дзеткі нарадзіліся неданошанымі праз кесарава сячэнне.

*"Я нарадзіла натуральным спосабам Льва і Эвеліну хутка і гэтак жа хутка прыйшла ў норму,* – шчыра распавяла ў "Фэйсбуку" Наташа. – *Хоць і было вельмі балюча, але неяк ўсё забылася... А вось тую аперацыю я, напэўна, буду ўзгадваць у драбнюткіх падрабязнасцях яшчэ вельмі доўга…*

*Я якраз менш за ўсё разбіралася, як гэта – нарадзіць неданошаных дзяцей – і як жыць далей, калі ўсё гэта адбываецца менавіта з табой. Калі табе дзяцей нават не паказалі, хоць я чула іх плач, калі іх дасталі. Калі ляжыш і не ведаеш, што з імі, ці жывыя яны… І тут прыходзіць педыятр і паведамляе, што дзеці нарадзіліся вагой паўтара кілаграма. Як гэта? Колькі гэта? І вось я іду на іх паглядзець у рэанімацыю. Такое ўбачыць была не гатова… Настолькі маленькія, з трубачкамі з рота, куча правадоў, катэтары, зонд, кропельніцы, экраны з сэрцабіццём і featuring рознымі лічбамі..."*

Першы раз Наталля Поткіна змагла ўзяць дзяцей на рукі, калі ім было ўжо 3 тыдні.

*"З лякарні нас выпісалі, калі ім ужо было 6 тыдняў*, – узгадвае Наталля. – *Што мы з мужам перажылі за гэты час – нікому не пажадаю. Але я цяпер бачу велізарныя вынікі нашай любові і нашага жадання, каб дзеці жылі і раслі здаровыя…"*

**Марына КОКТЫШ.**

АФІША

## «Песняры» вяртаюцца ў Мінск



*23 мая Беларускі дзяржаўны ансамбль «Песняры» прэзентуе канцэртную праграму «Разам быць».*

ВІА «Песняры» – легендарны ансамбль, заснаваны народным артыстам **Уладзімірам Мулявіным** у 1969 годзе. У 1989 годзе ён стаў Беларускім дзяржаўным ансамблем. Сучасны склад пачаў працу ў 2003 годзе, захоўваючы ўсё лепшае, што было ў «Песняроў»: бездакорнае жывое выкананне, меладызм і акцэнт на беларускамоўнай творчасці.

– *За год мы даём ад 80 да 100 канцэртаў, прычым больш за палову з іх за мяжой*, – кажа мастацкі кіраўнік «Песняроў» **Раман Козыраў**. – *Таму кожнае вяртанне ў Мінск для нас прыемнае і цёплае. Хочацца быць з нашымі сем'ямі і блізкімі, шпацыраваць па вуліцах. Менавіта гэтае адчуванне гармоніі і радасці мы ўклалі ў назву вялікага сольнага канцэрта ў сталіцы.*

Квіткі каштуюць ад 20 да 28 рублёў.

СІТУАЦЫЯ

## Шах для Ілюмжынава. Хутка будзе мат?

*Міжнародная шахматная федэрацыя запатрабавала тэрміновай адстаўкі яе дзеючага кіраўніка.*

У мінулыя выхадныя пытанне датэрміновага складання паўнамоцтваў прэзідэнтам ФІДЭ **Кірсанам Ілюмжынавым** разглядалася на пасяджэнні савета Міжнароднай федэрацыі шахмат, якое праходзіла ў Мінску. У выніку за датэрміновую адстаўку Ілюмжынава прагаласавалі 14 чалавек, адзін быў супраць.

Нагодай для такога рашэння стала знаходжанне прэзідэнта ФІДЭ ў санкцыйным спісе ЗША, з-за чаго арганізацыя займела фінансавыя цяжкасці.

У прыватнасці, фінансавы дырэктар ФІДЭ Адрыян Сігель папярэдзіў, што 30 красавіка рахункі Міжнароднай федэрацыі шахмат будуць заблакіраваны, а банкі ў Швейцарыі і іншых краінах адмаўляюцца супрацоўнічаць з сусветнай шахматнай арганізацыяй да таго часу, пакуль тая не зменіць свайго кіраўніка.



*"У інтарэсах Міжнароднай федэрацыі шахмат вы павінны пайсці ў адстаўку"*, – такі зварот перадалі сябры савета ФІДЭ Кірсану Ілюмжынаву.

ЧУЛІ?

## У Мінск прыедуць шахматныя каралі?

*Беларуская сталіца зрабіла заяўку на правядзенне Сусветнай шахматнай алімпіяды.*

Акрамя Беларусі на арганізацыю турніру ўжо прэтэндуюць Кітай, ААЭ і Туніс. Канчатковае рашэнне будзе прынята на кангрэсе FIDE напрыканцы верасня 2018 года.

Народная Воля http://www.nv-online.info
10 КРАСАВІКА 2018 г.

ЛЁС ЧАЛАВЕКА

# Сяргей Далідовіч пакуль беспрацоўны…



У мінулыя выхадныя 44-гадовы беларускі лыжнік **Сяргей Далідовіч** пасля гонкі ў Ханты-Мансійску на спаборніцтвах «Югорскі марафон» паведаміў у сацыяльных сетках пра тое, што ён заканчвае прафесійную кар’еру:

*«Яшчэ адна гонка закончана – прыехаў чацвёртым! Дакладней – прафесійная кар’ера закончана! Прыемна заканчваць у такой кампаніі моцных спартсменаў! Эмоцый пакуль няма, але, мяркую, накацяць потым. Патокам хлынуць. Спадзяюся, спраўлюся з гэтым ціскам!»*

Нагадаем, што не так даўно Сяргей браў удзел у Гульнях-2018, і гэта была яго сёмая Алімпіяда! Грошы на падрыхтоўку да спаборніцтваў лыжніку, дарэчы, сабралі балельшчыкі.

**– Чым вы будзеце займацца зараз?** – пацікавіўся я ў вядомага спартсмена.

– Нават і не ведаю, – шчыра прызнаўся ён. – Зараз у маім жыцці новы этап, які трэба пачынаць, што называецца, з чыстага ліста. Але веру, што лёс накіруе туды, куды трэба.

**– Вам не паступалі прапановы паспрабаваць свае сілы на трэнерскай працы?**

– Не, такіх прапаноў не было, таму пакуль я беспрацоўны.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Юрый Бліноў: пьеса для «Крумкачоў»

*Вядомы піяніст і кампазітар распавёў “Народнай Волі”, чаму ён стаў адным з сузаснавальнікаў сталічнага футбольнага клуба.*

Як паведамлялася, “Крумкачоў” у гэтым сезоне не дапусцілі да ўдзелу ў вышэйшай лізе, бо каманда не прайшла ліцэнзаванне. Аднак балельшчыкі знайшлі выйсце і зарэгістравалі НФК “Крумкачы”, які будзе выступаць у 2-й лізе. Адметна, што сярод заснавальнікаў клуба – лаўрэат міжнародных конкурсаў піяніст **Юрый БЛІНОЎ…**




– Я футбольны аматар са стажам, – кажа Юрый. – Ды і сам у дзяцінстве ганяў мяч у двары, гульня мне вельмі падабалася. Праўда, скажам так, фізічныя кандыцыі былі не тыя, каб запісацца ў футбольную секцыю. Хутка бегаць і моцна біць – гэта крыху не маё.

Таму ўсю сваю любоў да футбола я перанёс на прагляд матчаў з удзелам розных каманд, і, натуральна, маімі кумірамі былі футбалісты мінскага “Дынама”, якія ў 1982 годзе сталі чэмпіёнамі Савецкага Саюза. А вось пасля чэмпіянату свету ў 1986 годзе стаў, як ні дзіўна, балец яшчэ і за каманду Германіі.

**– А музыкай вы з якога часу займаецеся?**

– Прыкладна з чатырох гадоў. І больш правільна казаць, што не я заняўся музыкай, а музыка занялася мною.

**– Гэта сямейнае?**

– У маёй бабулі быў прыгожы голас, яна нават спявала ў царкоўным хоры. А мае здольнасці да музыкі ў дзяцінстве былі настолькі відавочныя, што пытанне выбару нават не паўставала. У чатыры гады я мог паслухаць любую песню па радыё альбо тэлебачанні і адразу ж яе сыграць. Таму варыянтаў не было – толькі музычная школа.

**– Дарэчы, а як піяніст і балельшчык мінскага “Дынама” стаў фанатам “Крумкачоў”?**

– Гісторыя стварэння і ўзлёту каманды мне падалася вельмі цікавай. А калі схадзіў на стадыён на матчы з удзелам “Крумак” ды пазнаёміўся з балельшчыкамі і пабачыў, як тыя падтрымліваюць футбалістаў, то зразумеў, што цяпер мае сімпатыі – на баку гэтага клуба. Ды і сама каманда ў дэбюце свайго выступлення ў вышэйшай лізе правяла некалькі проста феерычных гульняў.

**– Чыя была ідэя даць “Крумкачам” другое жыццё?**

– Калі стала зразумела, што каманду выключаюць з вышэйшай лігі, сабраліся балельшчыкі і вырашылі, што клуб трэба ратаваць, а значыць, неабходна перафарматаванне, каб жыць далей.

**– Самі вырашылі стаць адным з сузаснавальнікаў клуба альбо нехта вам “падкінуў тэму”?**

– Калі паўстала пытанне аб складзе заснавальнікаў, я прапанаваў сваю кандыдатуру, і гэта ўсімі было прынята.

**– І як калегі па музычным цэху ўспрынялі вашу незвычайную ініцыятыву?**

– Цудоўна! Праўда, здарылася так, што інфармацыя пра гэта з’явілася ў СМІ ў апошнія дні сакавіка, але многія прачыталі паведамленне толькі 1 красавіка. Натуральна, большасць калег успрынялі гэта не інакш як арыгінальны першакрасавіцкі жарт. Але, калі зразумелі, што ўсё на поўным сур’ёзе, то проста падыходзілі, віншавалі і ціснулі руку.

**– Ці не стане праца ў клубе перашкодай для вашага асноўнага занятку?**

– Спадзяюся, не стане, бо я ўмею вельмі добра планаваць і размяркоўваць працу. Напрыклад, зараз яшчэ займаюся падрыхтоўкай III Міжнароднага конкурсу юных музыкантаў “Палескі агеньчык” і ўпэўнены, што ён пройдзе на ўзроўні. Спадзяюся, што мяне хопіць і на музыку, і на футбол. Тым больш што ў “Крумкачоў” ёсць вельмі моцная група балельшчыкаў, якая заўсёды можа дапамагчы вырашыць нейкія арганізацыйныя моманты.

**– Юрый, а ці прыходзяць футбалісты на вашы канцэрты?**

– Так, у мінулым годзе было некалькі іграко ў “Крумкачоў” падчас майго выступлення ў Верхнім горадзе. Казалі, што спадабалася. Магчыма, у тым ліку і гэта натхніла каманду на добрае заканчэнне сезона.

**– Новыя “Крумкачы” – гэта доўгатэрміновы праект альбо вырашылі паўдзельнічаць толькі ў стварэнні клуба?**

– Асабіста я збіраюся ўдзельнічаць у гэтым праекце столькі, колькі спатрэбіцца клубу. Магчыма, вырасцем да таго ўзроўню, калі кіраўніцтва можна будзе перадаць людзям з іншымі магчымасцямі, калі гэта кагосьці зацікавіць.

Ведаеце, я, акрамя ўсяго іншага, актыўна займаюся бегам і аддаю перавагу стаерскім дыстанцыям, падчас якіх заўсёды трэба размяркоўваць свае сілы. Сёння мы таксама рэальна ацэньваем свае сілы і можам сказаць, што “Крумкачы” – гэта доўгатэрміновы праект.

**– Калі не сакрэт, які плануеце бюджэт на гэты сезон?**

– Прыкладна 150 тысяч рублёў, хаця зразумела, што па ходзе чэмпіянату сума можа змяняцца. І большая частка выдаткаў будзе кампенсавана за кошт спонсараў, з гэтай нагоды ўжо ёсць папярэднія дамоўленасці. Акрамя таго, разлічваем і на балельшчыцкую падтрымку. Дарэчы, толькі за адзін дзень мы прадалі 85 гадавых абанементаў на ўсе матчы сезона. І гэта, мяркую, не мяжа.

**– Дзяніс Шунто, заснавальнік тых “Крумкачоў”, якія былі выключаны з вышэйшай лігі, распавядаў, што даводзілася ахвяраваць на карысць клуба і ўласныя зберажэнні. Вы таксама гатовы пайсці на такі крок?**

– Пры неабходнасці, безумоўна, буду дапамагаць матэрыяльна.

**– Вы лічыце сябе ў фінансавым плане заможным чалавекам?**

– Я не алігарх, але, скажам так, і вялікіх праблем з фінансамі няма. Даю канцэрты ў многіх краінах свету, і гэта прыносіць пэўныя інвестыцыі.

**– Але Шунто – халасцяк, жонка яго не “пілавала” за тое, што ён інвеставаў у футбол уласныя грошы без аніякіх гарантый іх вяртання. А вы, наколькі вядома, чалавек жанаты…**

– Так, у мяне ёсць сям’я – жонка і чатырохгадовы сын, які, да слова, хутчэй за ўсё, будзе таксама займацца футболам. Ва ўсялякім выпадку, ён схільны больш да гэтага, чым да заняткаў музыкай.

Што да стаўлення жонкі да магчымых страт у сямейным бюджэце, то, безумоўна, гэта пытанне далікатнае і ў пэўнай ступені балючае, але тут ужо трэба прымаць сітуацыю такой, якая яна ёсць.

**– Юрый, вядома, што вы напісалі канцэрт у пяці частках, прысвечаны чэмпіёну свету, вядомаму нямецкаму футбалісту Тоні Кроасу, а затым нават запрасілі яго на свой канцэрт у Мінск. Ці прыедзе?**

– Згодна з папярэднімі дамоўленасцямі, восенню Тоні Кроас гатовы прыехаць у Беларусь, але зараз узгадняюцца розныя арганізацыйныя моманты, таму пакуль пра нешта канкрэтнае казаць рана. Тут не ўсё залежыць ад маіх жаданняў.

А вось 26 красавіка запрашаю ўсіх жадаючых у Белдзяржфілармонію, дзе я выканаю ў тым ліку і сваю п’есу “Запрашэнне ў палёт”, якая прысвечана футбольнай камандзе “Крумкачы”. Як бачым, музыка і футбол у маім жыцці ідуць нага ў нагу…

**Алесь СІВЫ.**

ФУТБОЛ

# Традыцыйна ў лідарах БАТЭ

*Адбыліся матчы 2-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*

Вось іх вынікі: “Дынама” (Брэст) – “Прамень” (Мінск) – 2:1, “Слуцк” – “Нёман” (Гродна) – 1:1, “Мінск” – БАТЭ (Барысаў) – 0:2, “Тарпеда-БелАЗ” (Жодзіна) – “Смалявічы” – 1:0, “Днепр” (Магілёў) – “Гомель” – 1:0, “Тарпеда” (Мінск) – “Гарадзея” – 1:0, “Віцебск” – “Шахцёр” (Салігорск) – 2:1, “Дынама” (Мінск) – “Іслач” (Мінскі раён) – 0:0.

## Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| БАТЭ | 2 | 2 | 0 | 0 | 3–0 | 6 |
| Днепр | 2 | 2 | 0 | 0 | 3–1 | 6 |
| Віцебск | 2 | 1 | 1 | 0 | 3–2 | 4 |
| Дынама (Бр) | 2 | 1 | 1 | 0 | 2–1 | 4 |
| Дынама (Мн) | 2 | 1 | 1 | 0 | 2–1 | 4 |
| Тарпеда | 2 | 1 | 1 | 0 | 2–1 | 4 |
| Тарпеда-БелАЗ | 2 | 1 | 0 | 1 | 2–2 | 3 |
| Нёман | 2 | 0 | 2 | 0 | 2–2 | 2 |
| Слуцк | 2 | 0 | 2 | 0 | 1–1 | 2 |
| Іслач | 2 | 0 | 2 | 0 | 1–1 | 2 |
| Прамень | 2 | 0 | 1 | 1 | 1–2 | 1 |
| Гомель | 2 | 0 | 1 | 1 | 0–1 | 1 |
| Мінск | 2 | 0 | 1 | 1 | 0–2 | 1 |
| Шахцёр | 2 | 0 | 1 | 1 | 1–2 | 1 |
| Гарадзея | 2 | 0 | 0 | 2 | 1–3 | 0 |
| Смалявічы | 2 | 0 | 0 | 2 | 0–2 | 0 |



ШАШКІ

## Ганаровы выбар

“Народная Воля” паведамляла пра выбары ў Нацыянальнай акадэміі навук. З нагоды таго, што членам-карэспандэнтам НАН па вылічальнай матэматыцы выбраны **Пётр Паўлавіч Матус**, майстар спорту СССР па шашачнай кампазіцыі, неаднаразовы пераможца і прызёр чэмпіянатаў Беларусі і СССР, мы вяртаемся да гэтай тэмы. Пажадаем Пятру Паўлавічу поспехаў! Знаёмім з яго творам на шашачнай дошцы.



№1 **Белыя**: 10, 14, 19, 29, 45,47, дамкі 16, 21, 24, 37, 41 (11).

**Чорныя**: 2, 7, 15, 25, 27, 28, 32, 35, дамка 4 (9).

Белыя пачынаюць і пазбаўляюць хадоў 2 шашкі чорных.

13 (40 **А**), 34, 24-30, 9, 46, 21:8,30. **А** (34), 21-26, 30, 9, 26-31, 8, 11, 44.

{25.41 35.36 36.45}.

## Дэбют

Вітаем дэбютанта нашай рубрыкі – майстра спорту **Мікалая Матвіенку** (г.Шахты Растоўскай вобл.). Ніжэй яго эцюды ў рускія шашкі.



№8 **Белыя**: g7, дамкі f4, h6 (3).

**Чорныя**: a3, c3, b4, d4 (4).

h8(ab2), h6-g7(a3**AB**), fe5, d4, a1 x. **A**(a1), fe5, b2(d4), a5 x **B**(c1), g7-h6, a3(d2), c3 x.

№9 **Белыя**: g7, дамкі h2, d8, h8, (4).

**Чорныя**: e3, дамкі a7, b4, (3).

f8(e1**A**), c5, a1(e3-d2), g3, a1-f6, c1 x. **A**(a5), h6(f2), d4, d2, g1(a5), b6 x.

№10 **Белыя**: a3, e5 дамка g7 (3).

**Чорныя**: a5, c5, c7, дамка b4 (4).

d6(e5**A**), b6, b8 x. **A**(e7), c5(cd6), f8, a3 x.

Далей кампазіцыі-64 літоўскага маэстра **Рымаса Мацкявічуса**.

№11 **Белыя**: a1, b2, d2, c3, f4, h4, e5, g5 (8).

**Чорныя**: e3, a5, b6, f6, a7, e7, g7, d8 (8).

d4(a3), b2, h6, b4, g7, d4(c5), b6, h8 x.

№12 **Белыя**: c1, d2, h2, e3, d4, f4, g5 (7).

**Чорныя**: a3, h4, a5, b6, f6, e7, g7, b8 (8).

c5, e3, h6(b4), g1(g3), b6, a5(c3), d2(d4), g3(c7), gf4(e3), g5, b8 x.

№13 **Белыя**: c1, f2, a3, c3, g3, f4, h4, g5 (8).

**Чорныя**: h2, a5, c5, b6, f6, c7, e7, g7, h8 (9).

ab4, b2, b4, h6, h6, a7(b6), g7, e3/g3(e5), f4, f2 x.

№14 **Белыя**: a1, c3, e3, g3, f4, h4, e5, a7 (8).

**Чорныя**: h2, c5, b6, h6, c7, e7, g7, g7, d8, h8 (9).

d6, f8, g5, c7, b8(g7), a7(f6), b2(g5), c3(h4), d4 x.

№15 **Белыя**: e1, b2, d2, f2, c3, g3, f4, a5, e5 (9).

**Чорныя**: h2, a3, c5, h6, a7, c7, e7, b8 (8).

fe3, d6, f8, g5(e3), a3, d4(b6), c7, e7/f8(g3), c5(h2), g1, a7, ef2 x.

№16 **Белыя**: b2, d2, f2, a3, c3, g3, f4, a7, c7 (9).

**Чорныя**: h2, d4, c5, e5, d6, h6, e7, g7, b8, d8 (10).

cb4, bc3, c1, c5, f8, c3, g5, c1(c7), fe3(d6), d4 x.

## З юбілеем!

Украінскаму шашачнаму кампазітару **Анатолю Баланюку** (г.Цепладар Адэскай вобл.) 15 красавіка спаўняецца 60 гадоў. Яго шашачныя кампазіцыі добра вядомы і нашым чытачам. Свае новыя творы выдатны шашыст даслаў на электронны адрас вядучага рубрыкі. Віншуем юбіляра і знаёмім з яго творамі.

№2 **Белыя**: c1, d2, f2, g3, f4, e5 (6).

**Чорныя**: b4, a5, c5, b6, c7, e7, g7, h8 (8).

d6, h6(g7, a3, e1), h4, f2(c5), e3(b4), d4 x.

№3 **Белыя**: e1, h2 ,c3, d4, c5, b6, d6, f6 (8).

**Чорныя**: f2, a3, e3, g3, f4, h4, g5, a7, h8 (9).

e5, f8, f4(g5**A**), g3(f2), e7, f6 x. **A**(c5), g3(f2**B**), h4, f6 x. **B**(g5), e1, f6 x.

№4 **Белыя**: g1, d2, f2, g3, b4, b6, h6 (7).

**Чорныя**: b2, h2, f4, e5, d6, b8, f8 (7).

de3, c7, c5, e3, e7 – А.Лук’янаў (2009 г.)

g7(d4**A**), f8(e5), h6(g3**B**), g7(h2), h8(f4), c3(e3), e1x. **A**(e3), f8(f2**C**), e3 x. **C**(d4), b4x. **B**(de3), g7(d4), c3(g3), b4/a5(gf2**D**), e1x. **D**(ef2, h2), b6(g1), a7x.

Наступныя творы юбіляра для самастойнага рашэння.

№5 **Белыя**: h2, b4, d4, f4, e5, d6, e7 (7).

**Чорныя**: b2, d2, f2, a5, g7, b8, f8 (7).

№6 **Белыя**: a1, c3, e3, b4, f4, c5, e7 (7).

**Чорныя**: b2, h4, a5, c7, g7, b8 (6).

№7 **Белыя**: g1, b2, a3, g3, f4 (5).

**Чорныя**: d2, e5, d6, h6, f8 (5).

## Супаставім рашэнні

“НВ” ад 27 снежня 2017 года. №10 – 20, 12, 7, 2, 36 x.

Дакладныя адказы даслалі: **Аляксандра Камінская** (Вілейка), **Юрый Голікаў** (Цвер, Расія), **Эдуард Дамброўскі, Віталь Варушыла**, **Іван Наўроцкі** (Мінск), **Ігар Ананіч** (Гродна), **Мікалай Зайцаў** (Баранавічы), **Уладзімір Валчкоў** (Маладзечна), **Леанід Жыхар, Фёдар Карпей** (Мядзел), **Аляксандр Шурпін** (Івянец), **Уладзімір Бандарык** (в. Лугавая Слабада Мінскага раёна), **Рыгор Краўцоў** (в.Рублёўск Круглянскага раёна), **Уладзімір Панько** (Камянец).

Дзякуем за лісты і спадзяёмся на вашу далейшую актыўнасць.

Свае лісты дасылайце на адрас:

***220030 Мінск, вул. Энгельса, 34а, “Шашкі”***

або на электронны адрас рэдакцыі: ***shulga.checkers@gmail.com.***

**Віктар ШУЛЬГА,**
**міжнародны майстар спорту па шашачнай кампазіцыі.**

БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

# Пошли вы все в баню!

*Горячие полки, распаренные веники, обстоятельные разговоры, призывы «А ну, поддай жару!» – все это любимая многими парилка. Знающие толк в сауне финны уверяют, что посещать ее может любой, кто в состоянии до нее дойти. Но так ли это? Чем хороша парная и всем ли она полезна? Попробуем разобраться.*

«Жар костей не ломит!» – уверяют любители парилки и с удовольствием терпят эту сладкую муку: сухой обжигающий пар, жар раскаленной печки-«каменки» и нахально охаживающий бока веник. Овчинка выделки стоит – в народе считается (и врачи это подтверждают), что парная оказывает изрядное общеукрепляющее и великое профилактическое воздействие.

Банный жар активизирует работу сердца, легких и улучшает качество крови: повышает гемоглобин и количество эритроцитов.

В сочетании с массажем баня действенно восполняет дефицит двигательной активности у представителей «сидячих» профессий.

Баня – отменное средство от усталости и стрессов: «Душистый пар не только тело, но и душу лечит!»

Контрастные температуры тонизируют кожу и укрепляют сосуды, защищая от опасности сердечных заболеваний.

Сауна частенько входит в число лечебных мероприятий при заболеваниях опорно-двигательного аппарата. Кроме того, ее уважают профессиональные спортсмены и те, кто проводит достаточно много времени в тренажерном зале: банные процедуры питают ткани кислородом, улучшают кровообращение, расслабляют мышцы и вдвое сокращают содержание молочной кислоты.

**Важно:** прежде чем заходить в парную, тело нужно подготовить – трех минут под теплым душем вполне достаточно. Первый заход в парилку должен длиться не более пяти минут, сидеть нужно на нижнем полке, и не забудьте надеть шапочку – она спасет голову от перегрева. Не парьтесь стоя – велик риск теплового удара. И помните о том, что после первого захода просто необходимо 10–15 минут отдохнуть.

Парильщики со стажем непременно захватят с собой веник, без него баня не баня! Массаж веником хорош тем, что усиливает кровообращение, способствует перераспределению крови, лимфы и межтканевой жидкости по всему телу, распаренный веник выделяет фитонциды, убивающие болезнетворные бактерии, что весьма полезно при разного рода недугах.

Прежде чем взяться за веник, имейте в виду, что он должен быть влажным: время от времени его надо смачивать в теплой воде. Охаживать себя веником нужно аккуратно – он должен лишь касаться тела. Если в парной очень жарко, махать веником нужно осторожнее – пар может сильно обжечь кожу. Кроме того, стоит знать, что веник венику рознь.

**Березовый:** отлично нагоняет жар, незаменим при мышечных и суставных болях.

**Дубовый:** обладает успокаивающим и противовоспалительным эффектом.

**Липовый:** обладает жаропонижающим, бронхорасширяющим, бактерицидным и мочегонным свойствами.

МАЗАІКА

# У эфіры – беларускі футбол

*Рыхтуецца запуск першага беларускага інтэрнэт-радыё, прысвечанага футболу.*

Гэты праект анансавала асацыяцыя “Беларуская федэрацыя футбола”. Адзначаецца, што запуск анлайн-вяшчання павінна адбыцца ў красавіку 2018 года.

У эфіры радыё будзе асвятляцца не толькі нацыянальны, але і сусветны футбол. Абяцаюцца *“эксклюзіўныя інтэрв’ю, аўтарскія праграмы, якасная музычная калекцыя, прамыя ўключэнні з матчаў, агляды важных футбольных падзей з каментарыямі экспертаў”*.

***«Народная Воля»***
***в* Facebook *www.facebook.com/nv.online.info***
***в* Vkontakte *www.vk.com/nvonlineinfo***

**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**
**Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.**
nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

**Падпісныя індэксы:**
**63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,**
**632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**




Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб’явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 09.04.2018 у 17.00. Аб’ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 410 экз. Заказ № 1393.